
Ваяводскі конкурс➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Кніжка пра Катлы➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 13 (3281) Год LXIV

Беласток, 31 сакавіка 2019 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# 101 БНР. Успамін дзеля будучыні

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

**Святкаванне Дня Волі ў Польшчы было запачаткавана ў сярэдзіне 1980-х гадоў беларускімі студэнтамі ў Варшаве і з таго часу адзначаецца кожны год. У нядзелю 24 сакавіка ў Беларусі і ў свеце адзначалі 101-годдзе абвяшчэння БНР. На святкаванне ў Беластоку запрасіў арганізацыйны камітэт: Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай, Беларускае гістарычнае таварыства, Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА, Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Асацыяцыя беларускіх журналістаў.**

Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) — незалежная беларуская дзяржава, абвешчаная ў 1918 годзе, пасля больш чым 200-гадовага знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі ад канца XVIII ст., калі Беларуска-Літоўская дзяржава (Вялікае Княства Літоўскае) была гвалтам далучана да Расеі. БНР гэта працяг тысячагадовай беларускай дзяржаўнасці з часоў Полацкага княства. У Трэцяй устаўной грамаце 25 сакавіка 1918 года ў Менску Рада БНР (былога выканаўчага камітэта Усебеларускага з'езда) абвясціла незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Гэта быў юрыдычны акт, які ўзнаўляў


Злева: Ян Карчэўскі, Тамаш Суліма ад імя Анны Фіёнік, Яраслаў Іванюк

рускіх гарадоў і мястэчак, якія апынуліся ў складзе міжваеннай Польскай Рэспублікі. Галоўныя ўрачыстасці звычайна адбываліся ў Вільні.

101-я ўгодкі Акта 25 Сакавіка і абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі пачаліся ў Беластоку святой літургіяй і святочным малебнам за беларускі народ у царкве святога Іаана Багаслова па вуліцы Збігнева Герберта. У святочнай праграме ўрачыстасці ў клубе «Змена клімату» былі занатоўкі з гістарычнага мінулага прафесара Алега Латышонка, пасланне Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвілы, урачыстыя падзякі за выдатную дзейнасць на ніве беларускай культуры, гісторыі і адукацыі, успамін са святкавання 100-х угодкаў беларускай незалежнасці ў Беластоку ды канцэрт барда Андрэя Мельнікава. У час сустрэчы можна было падтрымаць


Святочны малебен за беларускі народ у царкве святога Іаана Багаслова


Андрэй Мельнікаў


На «Нашу памяць»

дзяржаўнасць беларускага народа. Дзяржаўнымі сімваламі першай беларускай нацыянальнай дзяржавы зрабіліся бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня, сталіцай — Менск, дзяржаўнай і абавязковай мовай — беларуская (з 12.04.1918 г.). Беларускую Народную Рэспубліку дэ-юрэ прызналі УНР, Літва, Латвія, Эстонія, Чэхаславаччына і Фінляндыя, дэ-факта — Нямеччына, Балгарыя і Турэччына. Абвяшчэнне БНР было вялікім гістарычным крокам Беларусі да ідэйнага асэнсавання сябе як асобнай самастойнай краіны, правай волі беларусаў да ўтварэння незалежнай беларускай нацыянальнай дзяржавы. Хаця маладая рэспубліка існавала коратка, пасля гэтага і Захаду, і Усходу стала немагчыма ігнараваць дзяржаўныя памкненні беларускага народа. Упершыню ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі адзначылі ў 1919 годзе ў Горадні. Пазней святочныя імпрэзы праводзіліся ў шэрагу бела-


Наша будучыня, гайнаўская моладзь

ініцыятыву «Наша памяць», набыць беларускія выданні і мастацкае рукадзелле з беларускімі традыцыйнымі ўзорамі.

Як штогод арганізатары ўручылі адмысловыя ўзнагароды, бел-чырвона-белыя букеты асобам, працуючым для развіцця беларушчны на Падляшшы. Атрымалі іх: **Яраслаў Іванюк** — за ініцыятыву праекта «Наша памяць», які гуртуе людзей дзеля аховы самастойнай гісторыі беларусаў Беласточчыны і памяці пра трагічны лёс нашых продкаў, а таксама яе пашырэння сярод беларусаў і палякаў; **Анна Фіёнік** — за ахвярнасць у зберагання і развіванні аўтэнтычнага фальклору беларусаў Падляшша, за гуртаванне чарговых пакаленняў маладых беларурсаў Беласточчыны ў пашане да шматвяковай спадчыны

працяг☞10

9 770546 196017

# 101



Ох і люблю я такія лічбы. Люстэркавыя. 101. Пасярэдзіне нуль, а з абодвух бакоў ад таго нуля аднолькавыя лічбы. Нібыта нуль і ёсць люстэркам, у якім з будучага адлюстроўваецца мінулае. Ці наадварот, з мінулага будучыня.

Менавіта такімі лічбамі матэматыкі тэарэтычна вытлумачваюць узнікненне свету. Узнікненне матэрыі з нічога. Нуль, гэта нічога. І каб з яго зрабіць нешта, прыкладам пяцёрку, трэба з другога боку зрабіць мінус пяць. І тады з нічога ўзнікаюць два паралельныя светы, у якіх буяе жыццё, кіпяць жарсці, ідзе змаганне, існуе зло і дабро па гэтакай жа роўнай двухбаковай формуле, і дзе людзі святкуюць сто першую гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Адзіная ўмова, гэтыя лічбы з аднаго і другога боку ад нуля ніколі не павінны сутыкнуцца паміж сабой фізічна. Бо тады матэрыя і антыматэрыя знішчаюць адна другую, і з двух паралельных светаў атрымліваецца толькі нуль.

Беларусы пражылі сто гадоў пасля абвяшчэння незалежнасці ў пастаянным змаганні за тую незалежнасць і адстойванні свайго права мець сваю ўласную краіну і называцца асобным народам. Яны выстаялі і адпакутавалі гэтае права. Наступныя сто гадоў будуць перыядам росквіту беларускай нацыянальнай ідэі і беларускай дзяржавы. Час пайшоў. І ўжо бел-чырвона-белыя сцягі і герб „Пагоня” ўзняліся ўвысь і залуналі на святкаванні сто першай гадавіны БНР. 101. Ох і люблю я такія лічбы. Асабліва калі яны тычацца Беларусі.

У старадаўняй Гародні ў гэты дзень, калі вырашылі азначыць вялікую нацыянальную дату, нават неба было бел-чырвона-белым. Ад сцягоў, канешне ж, якія неслі людзі. Былі вядома ж і такія прадстаўнікі сама інтэлектуальнага віду на Зямлі, якія ў гэтае свята бел-чырвона-белага сцяга прынеслі і свае, партыйныя сімвалы. Ну ды Бог ім суддзя. Хоць нават і партыйная сімволіка ў Беларусі, незалежна ад таго, да якой апазіцыйнай партыі ты належыш, усё дно маюць бел-чырвона-белыя адценні, якія паглынаюць усё іншае. І іншыя колеры, і іншыя сімвалы. Ну то вядома ж, беларусы ўсё ж. А якія яшчэ колеры могуць быць у беларусаў?!

На сцэне гралі вядомыя гурты, спявалі вядомыя выканаўцы, побач весяліліся людзі, якіх па некаторых звестках было больш пяці тысяч. Хацелася б, вядома ж, і пяцьдзясят тысяч, і пяцьсот тысяч, і пяць мільёнаў, і ўсе дзесяць. Ды гэта ўсё на перадзе. У бліжэйшай перспектыве гэта ўсё. Мы ж ужо выйшлі на другую, фінішную, самую імклівую, самую шчаслівую сотню гадоў пасля абвяшчэння БНР. За намі цэлы век. Цэлых сто год толькі ад моманту абвяшчэння ў навейшай гісторыі чалавецтва Беларускай Народнай Рэспублікі! А да гэтага не адна сотня станаўлення і развіцця вялікай беларускай цывілізацыі. Ну а зараз, наперадзе, самая святочная сотня. Час, калі як у люстэрку, праз нуль у лічбавым вызначэнні, мы будзем асэнсоўваць мінулае і будучыню! 101. Добрая дата, каб паставіць сабе гэтыя задачы. Добрая і каб іх дасягнуць.

Нарэшце гарадзенскі парк ля старадаўняй беларускай святыні — Каложскай царквы ажыў. Зараз і гарадзенцы туды пацягнуцца на штодзень, і турысты павалакуцца. І кожны гід ім скажа, што гэта менавіта тое месца, дзе адбылося масавае святкаванне Дня Волі. І прапануе прыехаць наступным годам, бо яно будзе зноў, толькі яшчэ лепшае і больш масавае. Прыязджайце, маўляў, не пашкадуеце. І піцу купіце, і сувеніры. Усё зроблена і аздоблена арганізатарамі. І дзяцей з сабой прывозьце. Дзіцячая пляцоўка таксама ў вашым распараджэнні. Але галоўнае тое, што вы зможаце, нарэшце, зразумець беларусаў. Паглядзіце на іх! Яны бел-чырвона-белыя, і ніякія іншыя. Вось такія яны, беларусы.

Шкада, што не ўсім на гэтым свеце гэта даходзіць да мазгоў. Мазгі ідаць такія, ніякія, або ўвогуле іх няма. Ну то прыйдзецца ўставіць. Ды і грэх крыўдаваць на абдзеленых. Лепш памаліцца за іх.

Ну а Гародня, дзе адзначэнне вялікай даты 25-га Сакавіка становіцца традыцыяй, з наступнага году будзе чакаць беларусаў з усяго свету. І з ЗША, і з Канады, і з Аўстраліі, і Аргенціны, і безумоўна з Беласточчыны, ну і зразумела, з самой Гародні. І гэта найважней.

Са святам Вас, Беларусы!!! З Днём волі!!!

Жыве Беларусь!!!

Віктар САЗОНАЎ

# Уключанне і выключанне



Ёсць людзі, якія ведаюць штосьці і людзі, якія ведаюць «лепш». І ва ўсякім разе тыя, хто ведае нешта, ведаюць, што яны амаль нічога не ведаюць. І гэта свядомасць поўная пакоры, але і напоўненая адчаем, таму што, як у прыказцы, «чым глыбей у лес, тым больш дрэў», так з веданнем, што чым больш уваходзім у нязведаныя прасторы ведаў, тым больш становіцца для нас усё больш і больш пытанняў, на якія немагчыма знайсці адказ.

Вышэйпрыведзенае зацвярджэнне з'яўляецца відавочным труізмам, які кожны з нас, па меншай меры інтуітыўна разумее. Для некаторых гэта з'яўляецца дастатковай прычынай, каб упарціцца ў пошуках рэальных адказаў. Для іншых гэта магчымасць акружыць прастору высокім плотам. За плотам, мурам, мяжой нашпігаванай аргументамі — не мае значэння, ці з'яўляюцца яны ілжывымі або сапраўднымі, абы яны чуліся іншымі людзьмі — мы адчуваем сябе ў бяспецы. Хоць няпоўнае гэта адчуванне, пра што нагадваюць нам лёсы многіх утрачаных тэорый і іх сарамлівых падзенняў, тым не менш застрагаем у гэтым пачуцці ўсё больш і больш, і трапляем у пыху, паразітуючую як амяла на няведанні. У рэшце рэшт, зямля не плоская, а Сонца з'яўляецца цэнтрам лакальнай планетарнай сістэмы. Але колькі людзей у імя гэтай відавочнай ісціны згарэла на кастрах? А колькі іх, у імя той жа ісціны, іх распальвала? Разгледзім чарговыя звенні гэтага кароткага ланцуга, якім завязваецца наша невуцтва. Першым звяном з'яўляецца невуцтва. Другое пыха. Трэцяе ганарлівасць. Яна загадвае судзіць пра плюсы і мінусы з самаўпэўненасцю ўпартага асла, які лічыць, што светам кіруюць наймудрэй толькі аслы. Магчыма, асноўнай прычынай такога стаўлення з'яўляецца чалавечы страх перад невядомым. Страх, ці мы інтэлектуальна справімся з новым і вонкавым кагнітыўным аспектам нашых актуальных ведаў аб свеце. Маю бабулю, што нарадзілася ў дзевятнаццатым стагоддзі, але якая ментальна бліжэйшая да ранейшых часоў дыліжансаў і ручных кроснаў з рухавікамі паравых машын, рэальным страхам напаўняў тэлевізар. Проста не магла зразумець, як у такой маленькай скрыначцы можа змясціцца некалькі а нават некалькі соцень людзей. Радыё не было праблемай для яе. Выходзячая з яго гукі, чалавечы голас патлумачыла сабе, як разумела рэха ў лесе. Я не ведаю, як фізічна гэта асэнсоўвала, але гэта было дастатковым тлумачэннем. Што тычыццатэлевізара, уключала і выключала яго. Найбольш ахвотна, калі перадавалі рамантычныя фільмы пра каханне. Глядзеўшы іх, вельмі перажывала. Чалавечыя эмоцыі нязменныя ў часе, і таму зразумелыя ўсім пакаленням. І выключала тэлевізар адразу ж, калі з'яўляліся на экране гаваркія галовы. Таго, што яны казалі, ніяк не магла зразумець. Было гэта ў эпоху Герэка. Паўсюднае навамоўе ў тыя часы дасягнула піка абсурду. Аднак быў гэта ўзнёслы абсурд, нават выдасканалены. Усё ж, хоць гаваркія галовы казалі наймудрэйшыя словы, як толькі яны маглі, дык, верагодна, нават не ведалі, аб чым гавораць. Сёння я знаходжуся ў падобнай сітуацыі. Гаваркія галовы ў тэлевізары ўсё гавораць, як быццам нічога не змянілася з тых гадоў, калі мая бабуля жыла. Яна памерла ледзь перад сваёй сотай гадавінай, дваццаць гадоў таму. На шчасце, у мяне няма тэлевізара. На жаль, злое ліха цывілізацыі да сёння набывае новы характар. Маё пакаленне спрабуе мець справу з лічбавымі тэхналогіямі і нават вышэй... з аблокамі анлайн. Колькі з маіх калег, апрача спраўнага ўключэння і выключэння ноўтбука або смартфона разумее прынцып алгарытмічнай атрыбуцыі даных? Я — нічагуткі. У рэшце рэшт, гэтае паняцце не перавышае інтэлектуальнага патэнцыялу сярэдне адукаванага чалавека. У цяперашняй эпосе амаль усе дасягнулі «сярэдняга» ўзроўню агульных ведаў. Тым не менш, мала хто з іх гатовы да крыху інтэлектуальных намаганняў, каб справіцца з кібер-матэматычным пытаннем. Большасць толькі ўключае і выключае... Ці сапраўды цікаўнасць да ведаў? Але нават калі так, хопіць проста сумленна прызнаць уласнае невуцтва. Хай там з нейкай сарамлівасцю. Каб невуцтва не ператварылася ў пыху і ганарлівасць. На жаль, сярод самых невукаў заўсёды будзе адсотак людзей, якія, магчыма, з-за ляноты або інтэлектуальнай баязлівасці, выбягаюць перад натуральную ўсім людзям пазнавальную цікаўнасць са сваімі праблемамі і страхамі перад невядомым. Гэтыя праблемы часам могуць стаць адзіным праўдзівым пераканаўчым, што веданне з'яўляецца дастатковым для таго, каб зразумець і прадказаць наступствы пастаянна зьмяняючыхся прычын.

Міраслаў ГРЫКА



# Віншаваньне з Днём Волі

**ДАРАГІЯ МАЕ СУРОДЗІЧЫ-БЕЛАРУСЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ!**

У гэты першы Дзень Волі другога стагодзьдзя нашай Рэспублікі хочу падзяліцца з вамі маім захапленьнем: нягледзячы на ўсе зьдзекі, на фізычнае нішчэньне найлепшых сыноў і дачок нашага народу, на прапаганду, якая прадаўжаецца да сёньня; нягледзячы на стараньне ворагаў, каб сьцерці наш край з паверхні Зямлі — мы выжылі!

Беларусь — жыве!

Другое стагодзьдзе нашай сучаснай дзяржавы пачалося, нажаль, узмоцненай прапагандысцкай атакай супраць яе. Але за апошнюю чверць стагодзьдзя беларусы навучыліся разважаць іншымі катэгорыямі і ведаюць розьніцу між воляй і рабствам. Многія беларусы, перадусім з маладога пакаленьня, на свае вочы пабачылі, як заможна жывуць нават маленькія дзяржавы, якія не заўсёды маюць прыродныя багацтвы, але якія маюць таленавітае і працавітае грамадзтва, якое супольна працуе на дабрабыт свайго народу.

Беларускай моладзі ня трэба даказваць, што супольнасьць пасьпяховых, адукаваных і вольных грамадзянаў — гэта самы важны рэсурс краіны. Спатканьні мае з маладымі беларусамі напаўняюць сэрца радасьцю: гэта золата, якое мы павінны цаніць.

Дык зьвяртаюся сёньня перад усім да Вас, мае дарагія маладыя сябры! Бо Вы здольныя выратаваць наш край ад новай няволі. Вы разумееце пачуцьцё годнасьці вольнага чалавека. Вы ведаеце, хто Вы!

Віншую ўсіх Вас, мае дарагія суродзічы, асабіста і ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, з новым, другім стагодзьдзем ад абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі і жадаю, каб змаганьне за волю было плённым і пераможным!

**Жыве Беларусь!**

**Івонка Сурвілла,**
**Старшыня Рады БНР, Сакавік 2019 г.**



# Ваяводскі конкурс па беларускай мове

■ Удзельнікі апошняга этапу Ваяводскага конкурсу па беларускай мове, арганізаванага вучням падставовых школ

Апошні этап Ваяводскага конкурсу па беларускай мове, арганізаванага вучням падставовых школ, адбыўся 15 лютага ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы. Вучні вельмі добра падрыхтаваліся да ваяводскіх спаборніцтваў па роднай мове і на 19 яго ўдзельнікаў ажно 15 здабыла званне лаўрэата, а апошнія сталі фіналістамі. У час падрыхтоўкі да конкурсу па роднай мове, настаўнікі намагаюцца зацікавіць вучняў беларускай літаратурай, мовай, культурай, нашай гісторыяй і, канешне, граматыкай. Прадметны конкурс па беларускай мове дае магчымасць праверыць веды і ўмеласці вучняў, якія здабылі яны ў дыдактычным працэсе і на пазаўрочных занятках. Праца вучняў і настаўнікаў на ўроках беларускай мовы і падчас дадатковых сустрэч уплывае таксама на фарміраванне ў моладзі беларускай нацыянальнай свядомасці.

Вучні, якія хутчэй справіліся з конкурснымі патрабаваннямі, перайшлі ў суседнюю залу і сталі размаўляць аб практыкаваннях з тэсту. Мае суразмоўцы заяўлялі, што конкурсныя задачы не выклікалі асаблівых цяжкасцей, але апасаліся, што маглі зрабіць памылкі ў адказах.

— Рыхтуючыся да конкурсу мы займаліся з настаўнікамі пасля заняткаў. Паўтаралі матэрыял па літаратуры і граматыцы. Аналізавалі творы і выконвалі практыкаванні. Многа вучыліся дома. Конкурс па беларускай мове гэта праверка нашых ведаў і ўмеласцей, а таксама прэстыж. Важнае нам атрымаць званне лаўрэата, якое дае нам прывілеі, — гаварылі ўдзельнікі конкурсу. Маладыя суразмоўцы сказалі, што любяць на ўроках беларускай мовы чытаць вершы, апавяданні, але бачаць таксама патрэбу займацца па граматыцы, паколькі без ведання яе немагчыма дабіцца поспеху ў прадметным конкурсе па беларускай мове.

— Нам трэба было на падставе верша «Я сын зямлі беластоцкай...» Алеся Барскага адказваць на пытанні, якія тычыліся роднай зямлі. З гэтага твора трэба было таксама выпісаць эпітэты і метафары. На аснове фрагмента тэксту Якуба Коласа «Каля пасады лесніковай» мы апісвалі лес, — заявілі вучні.

— На аснове паасобных фрагментаў і цэлай паэмы «Курган» Янкі Купалы трэба было апісаць постаці князя і гусляра. Трэба было нам падзяліцца сваімі ўражаннямі, якія выклікаў у нас фрагмент твора «Курган», што тычыўся дарогі гусляра на смерць і яго закопвання. Мы апасаліся, што якраз выконваючы гэтую задачу маглі зрабіць найбольш памылак. У закрытай задачы мы адзначалі таксама правільныя адказы наконт паэмы «Курган», — гаварылі ўдзельнікі конкурсу.

— На падставе фрагмента тэксту «Ноч, калі папараць цвіце» Якуба Коласа мы адказвалі на пытанні згодна з патрабаваннямі. У фрагменце тэксту Якуба Коласа мы таксама ўстаўлялі «у» або «ў». Перакладалі мы сказы з беларускай мовы, на польскую, а ў практыкаванні па граматыцы трэба было назоўнікі ў дужках напісаць у патрэбнай форме. У апошніх задачах мы працавалі на дзеясловах і трэба было дапісваць прапушчаныя формы дзеясловаў у будучым часе і дзеясловы ў дужках пісалі мы ў форме цяперашняга часу, — тлумачылі мае суразмоўцы.

— Узровень падрыхтоўкі вучняў да конкурсу па беларускай мове быў высокі, што пацвердзілі вынікі спаборніцтва. На 19 удзельнікаў ваяводскага этапу конкурсу, ажно 15 асоб атрымала званне лаўрэата, а 4 вучні сталі фіналістамі конкурсу. Вучні разам з настаўнікамі мусілі салідна папрацаваць, паколькі яго ўдзельнікі вельмі добра састаўлялі творчыя выказванні і станоўча адказвалі на адкрытыя і закрытыя пытанні па беларускай літаратуры і мове. На гэты раз паявілася крыху памылак па граматыцы, але трэба адзначыць, што як роўны з роўным спаборнічалі асобы з пятага па восьмы клас, хаця малодшыя вучні перарабілі на ўроках намнога менш матэрыялу па граматыцы, чым вучні, якія ўжо набліжаюцца да канца адукацыі ў пачатковай школе. Не ведаю чаму, але найбольш балаў вучні патрацілі ў практыкаванні па граматыцы, у якім трэба было памяняць час дзеясловаў з прошлага на цяперашні, — распавёў старшыня камісіі Ваяводскага конкурсу па беларускай мове, настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Ян Карчэўскі.

У камісіі працавалі таксама настаўніцы беларускай мовы Беата Кендысь, Анджаліна Масальская і Іаанна Васілюк. Пасля двухкратнай праверкі прац стала вядомым, што пераможцай конкурсу стала Анна Радзівончык з Пачатковай школы ў Нараўцы, якая здабыла 79 балаў. На другім месцы апынуліся Мікола Здрайкоўскі і Кандрат Косцін, абодва з ПШ № 53 з двухмоўнымі аддзяленнямі ў Беластоку. Па 77 балаў здабылі Эвеліна Васілюк з бельскай «тройкі» і Дам'ян Іванюк з ПШ № 4 у Гайнаўцы. Да школьных адбораў прыступіла многа вучняў розных школ, але да апошняга этапу Ваяводскага конкурсу па беларускай мове, арганізаванага вучням падставовых школ, дайшло найбольш маладых асоб з Беластока, з ліку якіх 9 вучняў сталі лаўрэатамі. Найбольш беластоцкіх лаўрэатаў конкурсу было з Непублічнай ПШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку (5 асоб). Была таксама лаўрэат з ПШ № 4 імя Сібіракоў у Беластоку, дзе здаўна вядзецца навучанне беларускай мове. Аднак мае суразмоўцы паінфармавалі, што да апошняга этапу конкурсу дайшлі таксама вучні, якія ў сваіх школах не вучацца беларускай мове, а раней вучыліся роднай мове ў іншых школах або толькі з бацькамі рыхтаваліся да конкурсу. Апрача вучняў з ПШ № 53 з двухмоўнымі аддзяленнямі ў Беластоку, лаўрэатам стала таксама вучаніца ПШ № 1 у Беластоку, дзе няма вучобы беларускай мовы. Званне лаўрэата здабылі 4 вучні бельскай «тройкі» і па адным вучні з ПШ № 4 у Гайнаўцы і ПШ у Нараўцы, а 4 вучні сталі фіналістамі. Сярод лаўрэатаў былі чатыры асобы, якія нарадзіліся ў Рэспубліцы Беларусь, а зараз жывуць на Беласточчыне. Дзве маладыя асобы нарадзіліся ў Мінску, адна вучаніца нарадзілася ў Гродне, адна ў Пружанах. Мікола Абрамюк з Непублічнай ПШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, які падчас раённага этапу конкурсу здабыў найбольш балаў, стаў лаўрэатам, але паколькі вучыцца ён толькі ў пятым класе, апярэдзілі яго старэйшыя вучні, якія зрэалізавалі на ўроках беларускай мовы ў сваіх школах намнога больш праграмы навучання па беларускай мове. З вучнямі з Беластока прыехала настаўніца беларускай мовы Людміла Сегень, якая сказала, што падрыхтоўка да паасобных этапаў конкурсу патрабавала многа працы ад вучняў і настаўнікаў, якія з імі працавалі. Пазней настаўніца беларускай мовы Іаанна Марко з Непублічнай ПШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку скажа, што да школьнага этапу конкурсу прыступіла каля сарака яе вучняў, а з іх ліку 5 асоб стала лаўрэатамі і 2 вучні сталі фіналістамі.

— Вучням важны конкурс па беларускай мове, але перш за ўсё трэба іх зацікавіць нашымі неабавязковымі заняткамі беларускай мовы, — сказалі настаўніцы беларускай мовы.

— Наша вучаніца Ганна Радзівончык ужо чарговы раз прымае ўдзел у апошнім этапе конкурсу па беларускай мове. Рыхтуючыся да яго, мы паўтараем пройдзены матэрыял па беларускай мове і вучымся паводле патрабаванняў, але важнае веданне лексікі беларускай мовы і граматыкі, паколькі частка задач тычыцца граматыкі, — сказала настаўніца беларускай мовы Анна Кандрацюк з ПШ у Нараўцы.

— Многа вучняў у нашай школе прыступае да конкурсу. Да апошняга этапу дайшлі пяць асоб, якія найлепш справіліся з тэстам, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў бельскай «тройцы» Валянціна Бабулевіч.

— Я з Дам'янам Іванюком доўга рыхтавалася да паасобных этапаў конкурсу. Ён ведае беларускую літаратуру, паводле якой састаўляліся пытанні і ведае лексіку беларускай мовы, — гаварыла настаўніца беларускай мовы Людміла Грыгарук з ПШ № 4 у Гайнаўцы.

— Вучні, якія даходзяць да апошняга этапу конкурсу па беларускай мове, мусяць раней разам са сваімі настаўнікамі многа рыхтавацца да конкурсу паводле патрабаванняў, якія загадзя вядомыя. Вучацца яны па беларускай літаратуры, беларускай мове і граматыцы. Аднак варта многа папрацаваць, паколькі прывілеі ў лаўрэатаў ваяводскага конкурсу па беларускай мове вялікія. Званне лаўрэата дае магчымасць пераможцам паступаць у выбраныя імі сярэднія школы без дадатковых патрабаванняў. Гэта будзе асабліва важнае ў наступным школьным годзе, калі ў сярэднія школы будзе весціся падвоены набор з ліку выпускнікоў гімназій і васьмігадовых пачатковых школ. Лаўрэатам прадметных конкурсаў лягчэй атрымаць стыпендыю. Каб атрымаць вучню пачатковай школы стыпендыю маршалка Падляшскага ваяводства, трэба здабыць званне лаўрэата прынамсі ў трох прадметных конкурсах і тут таксама можа быць вельмі важным званне лаўрэата па беларускай мове, — сказаў старшыня конкурснай камісіі Ян Карчэўскі.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

## Аб чаромхаўскай культуры (3)

Жыхары Чаромхаўскай гміны ў мінулым з сімпатыяй ставіліся да культурна-асветніцкай дзейнасці — як маладыя, так і старэйшыя. Маладыя арганізавалі мастацкую самадзейнасць. У маёй вёсцы, напрыклад, у шасцідзясятыя гады актыўна дзейнічаў драмгурток. Ставілі беларускія і польскія пастаноўкі. Са спектаклямі выязджалі ў навакольныя сёлы. Арганізавалі святочныя вечарыны. Старэйшыя займаліся чытаннем газет і журналаў. Дзядуля Юсцін Саласцюк у 1959 годзе выдаў на газеты і часопісы 172 зл. А колькі кніжак у яго шафках было, разумееца, на рускай мове? Не пералічыць. Памятаю з дзяцінства, што перад Божым Нараджэннем хадзіў я да дзядулі, каб ён гвязду памог упрыгожыць ды калядак навучыў. Мы былі суседзямі і дзядок Саласцюк ніколі не адказаўся. А ў Ставішчах перад вайною настаўнічалі Возны з бабулькай Сахацкай. Яны займаліся культурна-асветнай дзейнасцю. У 1946 годзе іх перавялі ў Чаромху. Калі я год пазней пайшоў у першы клас, дык Возны быў кіраўнікам школы, а яго жонка — маёй класнай выхавацелькай. Прыстарэлая з беласнежнымі быццам пух валасамі бабулька Сахацкая навучала рускай мове.

З цягам часу, калі чыгуначная станцыя стала буйным квітнеючым цэнтрам, на зломе шасцідзясятых-сямідзясятых гадоў Чаромха лічылася таксама цэнтрам культуры. У доме культуры «Калеяж» арганізавалі духавы аркестр чыгуначнікаў. Капельмайстрам быў Казімеж Блашкевіч, а адным з членаў аркестра — Мікалай Гарадкевіч, кіраўнік дома культуры і арганізатар культурных мерапрыемстваў. На прылеглай да «Калеяжа» вялікай пляцоўцы арганізаваліся дажынкі, фэсты, танцавальныя вечарыны ды спартыўныя гульні.

14 верасня 1975 года, у цэнтры пасёлка побач «Калеяжа» мясцовая грамадскасць адзначыла тры падзеі: гмінныя дажынкі, Дзень чыгуначніка і адкрыццё гандлёвага павільёна.

Год пазней, у 1976 годзе ў сувязі з заканчэннем Міжнароднага года жанчын рада прафсаюзаў чыгуначнікаў з Гміннай управай арганізавалі святочны вечар З дакладам выступіў Мікалай Міхалюк, а ў мастацкай частцы Дворны аркестр з Варшавы. Чаромхаўскія жанчыны пры шклянцы гарбаты і кавы ў сардэчнай атмасферы правялі святочны вечар.

14 жніўня 1976 года на чаромхаўскай сцэне выступіла аб'язная трупа беластоцкага драматычнага тэатра з пастаноўкай Славаміра Мрожка «Паліцыя», а 17 жніўня беластоцкая эстрада з праграмай «Развітанне з летам».

У кастрычніку 1977 года на гмінных дажынках выступіў эстрадны калектыў «Палянез» з Варшавы. Пры канцы гэтага ж года на чаромхаўскай сцэне выступіў вядомы вакальна-інструментальны гурт «Бэнэ-нацi» і лаўрэатка фестывалю салдацкай песні ў 1976 годзе Ніна Урбано.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**




# Сакольскія паясы



**Гэта быў апошні момант, каб даведацца крыху больш ад жыхароў Сакольшчыны, якія іх рабілі і памятаюць народныя ўзоры і колеры. Сакольскімі паясамі не цікавіліся польскія этнографы, таму зрабіла гэта Эдыта Вісьнеўская з Музея Сакольскай зямлі. Дзякуючы ёй, гэтае народнае мастацтва перастала быць маладаследаваным рэліктам мінуўшчыны. Агнізуючы майстар-класы па вытворчасці паясоў, стараецца ўцягнуць у свет сакольскіх паясоў людзей XXI стагоддзя.**

**— На Сакольшчыне можна паглядзець паясы, пад якімі вісіць надпіс «крайка». Ці мясцовыя людзі выкарыстоўвалі гэтую назву?**

— Ніхто не карыстаецца словам «крайка». Для людзей з Сакольшчыны гэта проста пояс. Мы таксама ў Музеі Сакольскай зямлі падпісалі паясы словам «крайкі», так па-польску (*смех*).

**— Чаму так цяжка было займацца тэмай паясоў?**

— Пра паясы на тэрыторыі сённяшняй Сакольшчыны цяжка гаварыць, таму што тэма паясоў не цікавіла этнографаў і даследчыкаў. Можна знайсці паасобныя кароценькія звесткі. Няма асновы, польскай публікацыі, якая апісвала б традыцыйныя метады вырабу паясоў на тэрыторыі Сакольшчыны. Таму я вырашыла, што займуся гэтай тэмай, але не мела амбіцыі, каб запоўніць інфармацыйную пустэчу пра паясы, толькі проста засяродзілася на XX стагоддзі. Людзі яшчэ памятаюць працэс падрыхтоўкі паясоў. Мне залежала гэта запісаць.

**— Вы засяродзіліся на Сакольшчыне, а дакладней, якія вёскі абнялі вашы доследы?**

— Перш за ўсё гэта паўночная частка Сакольскага павета: Кумялка, Васілёўка, Янаў, Тэолін, Новы Двор, Дуброва-Беластоцкая, Сякерка. Мы фатаграфавалі паясы, размаўлялі аб іх з уласнікамі. Усе паясы засталіся ў гаспадароў, якія штогод абвязваюць імі празьмо. Некалькі трапіла ў Музей Сакольскай зямлі. Бо варта ведаць, што паясы на Сакольшчыне захаваліся, дзякуючы святу Маці Божай Зельнай. Тады асвячаецца празьмо (букет збожжа), якое абвязваецца гэтым поясам. Гэта адзіны момант, калі людзі яшчэ выцягваюць з шафак старыя паясы.

**— А ўдалося Вам даведацца пра іншыя формы выкарыстоўвання паясоў на Сакольшчыне?**

— Яшчэ да 50 гадоў XX стагоддзя паясамі абдароўвала мужчын нявестка ў час шлюбу. У манаграфіі Яноўскай парафіі кс. Станіслаў Шырокі запісаў, што менавіта ў пасагу нявесткі мусілі быць ручнікі, капы, дываны, але таксама паясы, і гэта не адзін, а некалькі дзясяткаў! Кс. Шырокі пісаў, што мужчыны абвязвалі імі нагавіцы ці кажух.

**— Вы таксама цікавіцеся паясамі на тэрыторыі заходняй Гродзеншчыны. Яны нечым адрозніваюцца?**

— Будучы ў Гародні на кірмашы я бачыла вельмі прыгожыя паясы — выдатная работа. Не ведаю ці сёння яшчэ выкарыстоўваюцца паясы ў Беларусі, ці гэта зараз выключна музейны экспанат. Калісьці яны мелі шырокае прымяненне. Удалося мне знайсці інфармацыю з ваколіцы Шчучына, дзе паясамі абвязвалі пачкі, таксама як у нас абвязвалі вопратку, абвязвалі першы снапок жыта зжатага маладой нявесткай.

**— А спосаб вырабу паясоў на Гродзеншчыне і Сакольшчыне быў аднолькавы?**

— Не да канца. Найстарэйшыя сакольскія паясы ваўняныя. У сваю чаргу, на



тэрыторыі заходняй Гродзеншчыны на пачатку XX стагоддзя паясы ткалі з купленых нітак, дабаўлялі сваёй работы ільняныя ніці. Апрача таго таксама колер паясоў адрозніваўся. Тут найчасцей яны былі двухкаляровыя: фіялетавы з зялёным, чырвоныя з сінім. Нашы не так прыгожа аздобленыя, як гэтыя з беларускага боку.

**— Арнаментыка была супольнай?**

— Так, яна характэрная для польска-літоўска-беларускага пагранічча. Вось, нават маю тут такі папулярны ўзор, які сімвалізаваў плоднасць, а бачым пасеянае поле. Таксама некаторыя арнаменты мелі берагчы ўласніка пояса. Тут вось чырвона-белы пояс, які меў абараняць ад дрэнных вачэй, праклёнаў і г.д.

**— На Сакольшчыне паясы ў XX стагоддзі былі яшчэ элементам народнай вопраткі?**

— Так, але і тут маем спрэчныя інфармацыі — напрыклад у рукапісе Адама Буцькевіча можна знайсці інфармацыю, што жанчыны таксама насілі паясы, але не ў святочных строях, а выключна будзённых. У сваю чаргу Міхал Федароўскі занатаваў, што мужчыны і старэйшыя жанчыны абвязваліся паясамі, але ўжо маладыя жанчыны не. Аднак ужо людзі, з якімі я размаўляла, памятаюць толькі паясы на мужчынскім адзенні. Найчасцей такія паясы былі перадаваныя з пакалення ў пакаленне. У час маіх даследаванняў старэйшыя жанчыны гаварылі, што не толькі паясы можна было рабіць на ткацкіх варштатах, але таксама на нагах. Гэтаму можна навучыцца. У рамках стыпендыі Маршалка Падляшскага ваяводства я правяла цыкл майстар-класаў у Музеі Сакольскай зямлі. Але зрабіць пояс не так проста. Я прабавала ўзнавіць даўнейшыя поясы — гэта была мая задача ў рамках стыпендыі. Думаю, што на сорак паясоў, якія я зрабіла, толькі адзін добра аддаваў гэтыя даўнейшыя колеры і арнаментыку. Гэта неверагодна цяжкая праца.

**— Усё-такі Вы за яе ўзяліся. Ці можна неяк вызначыць гады, у якіх быў зроблены пояс?**

— Можна. Вось чарговым праблемам у час маёй працы над паясамі была воўна, а дакладней яе недахоп. Проста калісьці людзі самі пралі, такая воўна была добра скручаная, тонкая. Гэта дазваляла больш дакладна выканаць пояс. І гэта менавіта колер, тып воўны здраджвае, калі больш-менш быў зроблены. Чым лепшая воўна, тым старэйшы пояс. Паясы ўнікальныя, бо розныя, асаблівыя. Мы захапляемся ўзорамі з далёкіх куткоў свету, а самі маем непаўторную і так прыгожую арнаментыку.

**— Дзякую за размову.**

Тэкст і фота **Уршуля ШУБЗДА**

# Адкуль пайшлі назвы

«Чалавек даў імёны гарадам і сёлам, марам і горам, ён назваў лясы і рэкі. (...) І магчыма тады, як упершыню людзі пачалі даваць імёны акружаючым іх аб’ектам, узнікла пытанне — чаму так названа? Што абазначае тое ці іншае імя? Такія пытанні ставіць і зараз кожны цікаўны чалавек. Яго цікавіць больш за ўсё, чаму так называецца горад, вёска ці хутар, дзе ён жыве. Адкуль узялася назва рэчкі, што плыве каля яго вёскі, ці назва лесу, да якога ходзіць па ягады, грыбы ці арэхі. Такія пытанні зусім правільныя, і на іх варта шукаць адказу, таму што паводле слоў старагрэчаскага філосафа Платона „хто пазнаў бы імёны рэчаў, той пазнае і самыя рэчы”», — пісаў на старонках «Нівы» ў 1972 годзе прафесар Міхал Кандрацюк — выдатны мовазнаўца, дыялектолаг, анамаст. І калі некаторыя назвы — напрыклад, *Дуброва*, растлумачыць лёгка, іншыя не паддаюцца такой стэрэатыпнай расшыфроўцы. Такіх назваў асабліва многа на памежжы, дзе наглядаецца моўны ўплыў суседніх народаў. У нас, на Беласточчыне, на польска-беларускім памежжы з наяўнасцю балцкіх уплываў такіх назваў многа. Высветліць іх значэнне дапамагае анамастыка — раздзел мовазнаўства, які вывучае ўласныя імёны, іх паходжанне, гісторыю, асноўныя заканамернасці развіцця і функцыянавання.

Менавіта такім назвам прысвечаны вялікі том прац прафесара Міхала Кандрацюка пад загалоўкам *Nazwy geograficzne i osobowe Białostocczyzny*, які выйшаў з друку ў 2016 годзе[1]. У кнізе змешчана падборка навуковых і навукова-папулярных прац датычных польска-ўсходнеславянска-балцкага памежжа, апублікаваных у айчынных і замежных перыядычных выданнях у 1964-2014 гадах на польскай, беларускай і рускай мовах. Працы размеркаваны ў трох раздзелах. Раздзел першы, папярэджаны прадмовай, бібліяграфіяй навуковых прац аўтара і пералікам доктарскіх, магістарскіх і ліцэнцыяцкіх дысертацый, выкананых пад кірункам праф. М. Кандрацюка, змяшчае артыкулы і змяшаныя працы на тэму метадалогіі і гісторыі анамастычных даследаванняў нашага моўнага памежжа, каланізацыі, уплыву суседніх моў на ўласныя імёны. Другі раздзел — прысвечаны антрапаніміі. У артыкулах аўтар апісвае фармаванне як гістарычных, так і сучасных назваў жыхароў і прозвішчаў на польска-ўсходнеславянскім і польска-балцкім памежжы.




Самы вялікі трэці раздзел тычыцца тапаніміі — геаграфічных назваў. Абмяркоўваюцца ў ім пытанні паходжання назваў населеных пунктаў, урочышчаў, іх этымалогія і гісторыя.

У трэцім раздзеле, побач сур’ёзных навуковых прац, забяспечаных навуковым апаратам, друкуюцца папулярна-навуковыя артыкулы, апублікаваныя раней у «Ніве» і штомесячніках «Czasopis» і «Przegląd Prawosławny». Раздзел адкрывае вышэйцытаваны артыкул «Аб чым расказваюць геаграфічныя назвы», які друкаваўся ў «Ніве» № 3 у 1972 годзе. За ім — тры ніўскія артыкулы, якія друкаваліся ў 1968 годзе: «Ці ведаеце сваю зямлю?», «Бельск-Падляшскі», «Гайнаўка. Гісторыя назвы і горада». А ў першым раздзеле змешчаны іншы ніўскі артыкул: «Роля мовы і ўласных назваў у самаідэнтыфікацыі нацыянальных і этнічных меншасцей» («Ніва», № 28, 2009 г.). Папулярна-навуковыя матэрыялы друкуюцца з мэтай пазнаёміць у даступнай форме жыхароў Беласточчыны, асабліва маладое пакаленне з тапаніміяй Беласточчыны. Кнігу завяршаюць геаграфічны і імянны паказальнікі, у якія занесены растлумачаныя ў тэксце ўласныя імёны.

Па ўсім відаць, што кніга адрасавана не толькі мовазнаўцам, але і аматарам, якім цікава ведаць паходжанне назваў. Напрыклад, аўтар гэтых радкоў упэўніўся, што яго родная вёска Чорная-Вялікая ўзяла сваю назву ад рэчкі, над якой яна распаложана. У кнізе на старонцы 405 чытаем: «На Беласточчыне многа рэк і раўчукоў, назвы якіх паходзяць ад колеру вады, напр.: (...) р. *Чорна* (над якой размешчаны тры вёскі названыя па гэтай рацэ: *Чорна-Вялікая*, *Чорна-Сярэдняя* і *Чорна-Царкоўная*), левы прыток Нурца». Гартаючы старонкі кнігі можна высветліць значэнне шматлікіх прозвішчаў, якія ў нас сустракаюцца. У артыкуле пра назвы населеных пунктаў, якія адлюстроўваюць занятак колішніх яе жыхароў, маю ўвагу прыцягнула вёска *Лубнікі* (стар. 737). Аказваецца, што яе жыхары стагоддзі таму займаліся загатоўкай і пастаўкай *лубу* — валакністай часткі кары дрэў (ліпы, вяза, сасны), якім калісьці выплялталі вазы, з якога рабілі, між іншым, рознага віду каробкі. Да нашага часу захавалася *лубянка* — каробка для дробных фруктаў: трускалак, вішань, чарэшань, ягад. Можна затым меркаваць, што *лубамі* называлі нарыхтоўшчыкаў *лубу*, а з цягам часу назва занятку стала прозвішчам *Луба*. А вось гісторыя прозвішча *Гудалевіч*, з якім я сустрэўся ў Мілейчычах. Аказваецца, што ў яго літоўскае паходжанне. Слова *гудас* гэта адно з літоўскіх названняў беларусаў. Ад гэтага этноніма выводзіцца шмат прозвішчаў, між іншым, *Гудас*, *Гудайціс*, *Гудаль*, якія ўказваюць на беларускае паходжанне іх носьбітаў.

У 2015-2016 гадах прафесар Міхал Кандрацюк на старонках штодзёнкі «Gazeta Współczesna» адказваў на пытанні чытачоў аб паходжанні назваў мясцовасцей і прозвішчаў. На працягу амаль паўтара года растлумачыў ён паходжанне 130 назваў населеных пунктаў і 280 прозвішчаў. І хаця гэты матэрыял не ўключаны ў зборнік, аднак на стар. 35-38 даецца спіс мясцовасцей і прозвішчаў са спасылкай на даты выхаду дадатку «Magazyn» да газеты, што дапаможа чытачу знайсці патрэбны яму матэрыял.

Кніга *Nazwy geograficzne i osobowe Białostocczyzny* пашырае нашы веды пра асаблівасці ўласных імён Беласточчыны, што ў сваю чаргу сведчаць аб ёй моўнай, нацыянальнай і канфесійнай разнароднасці.

**Віталь ЛУБА**

1. Michał Kondratiuk, *Nazwy geograficzne i osobowe Białostocczyzny*, Białystok 2016, ss.799.

# 101-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Гданьску і Сопаце

23 сакавіка (у суботу) традыцыйна ўжо з нагоды 101-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі дваццаты год запар беларусы Трыгарада сустрэліся на Гарнізонных могілках у цэнтры Гданьска, каб ушанаваць памяць Серафіны і Лукі Дзекуцяў-Малеяў ды мастака Козьмы Чурылы. Пры магіле Лукі Дзекуця-Малея пастар баптысцкай царквы ў Гданьску Роберт Мікса прачытаў фрагмент евангелля св. Яна, а пасля, інтэрпрэтуючы яго, прыраўняў Л. Дзекуць-Малея да Ісуса Хрыста. Лена Глагоўская гэты сам фрагмент прачытала на беларускай мове — у перакладзе Л. Дзекуця-Малея, і прадставіла яго заслугі як камісара БНР для Беласточчыны, а пасля як пастара баптысцкай царквы ў Брэсце і на Палессі. На магіле ўсклалі вянок і запалілі зніччы. Прысутнічалі таксама ўнучка Л. Дзекуць-Малея — Альжбета і праўнук Лукаш. Кветкі таксама ўсклалі і запалілі зніччы на магілах беларускай настаўніцы Серафіны Дзекуць-Малей і мастака Козьмы Чурылы. Не абмінулі і магілы нашага былога дзеяча Анатоля Піруты, родам з Сакольшчыны.

Традыцыяй з 2008 г. стала таксама ўскладанне кветак пры камені ў гонар Янкі Купалы, які знаходзіцца ў Гданьску-Аліве. Чытаюцца там вершы паэта і ўспамінаецца гісторыя яго адкрыцця. Улады горада задбалі пра акружэнне каменя, пасадзіўшы вакол яго аздобную траву і кветкі. З сумам прыходзіцца сцвердзіць, што нашы штогадовыя намаганні, каб выраслі там явар і каліна, якіх заўзята штогод насаджвалі, не бачныя пасля дзесяці гадоў. Нехта мэтанакіравана знішчаў нашы насаджэнні. Аднаго году нават горад сам вырашыў пасадзіць каліну (явар яшчэ быў), але знікла і яна. Насаджвалі таксама і кветкі, якія нехта выкопваў. Наша грамада пры камені штогод выклікае зацікаўленне шпацыруючых там людзей. На гэты раз жанчына запытала, чаму Янка Купала памёр так рана, што з ім здарылася.

У сядзібе БКТ «Хатка» ў Сопаце адбылася сяброўская сустрэча, якая пачалася з гімнаў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і «Магутны Божа». Пасля віншаванняў з нагоды ўгодкаў БНР рэдактар Ганна Сабэцкая расказала пра свае сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, асабліва з Янкам Брылем, з якім сябравала, а які ў верасні 1939 г. бараніў Гдыню. Паказала здымкі са свайго архіва і кнігі з дарчымі подпісамі ад Янкі Брыля. Ганна Сабэцкая вядомая таксама як перакладчыца беларускай літаратуры на польскую мову, зрабіла шмат праграм для Польскага радыё пра беларускую літаратуру і пра нацыянальныя меншасці. У сяброўскай атмасферы сустрэча цягнулася некалькі гадзін. Асабліва цешыла прысутнасць беларускай моладзі, якая дамінавала на нашых сустрэчах.

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

## Андрэй СЦЕПАНЮК стаў ганаровым сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў

Дырэктар ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, паэт Андрэй Сцепанюк стаў ганаровым сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў. Рашэнне было прынята на сакавіцкім пасяджэнні Рады СБП шляхам адкрытага галасавання па прапанове сакратарыята саюза.

— Гэта для мяне нечаканасць і вялікі гонар, — кажа Андрэй Сцепанюк. — Саюз беларускіх пісьменнікаў — гэта тое, пра што можна толькі марыць, каб быць сярод яго чальцоў. Калі ўваходзіш у літаратуру, пішаш на беларускай мове, заўсёды хочацца мець параўнанне з тым, як пішуць аўтары ў Беларусі. А калі становішся сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў — гэта вельмі важнае. Там самыя лепшыя беларускія пісьменнікі, паэты, і быць адным з іх — гэта вялікі гонар.

Андрэй Сцепанюк — выпускнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Друкаваўся ў студэнцкім часопісе «Сустрэчы», тыднёвіку «Ніва», альманахах «Белавежа». Намінаваны да прэміі «Залаты апостраф» за публікацыі вершаў у менскім часопісе «Дзеяслоў». У 2016 годзе выйшаў у свет зборнік яго вершаў «Распісаны квадрат».

**Валянціна ЛАЕЎСКАЯ**
Беларускае Радыё Рацыя

## Веласіпедны сезон

1 красавіка гэтага года пачнецца чарговы сезон Беластоцкага веласіпеднага транспарту „БіКеР”. Ахвотныя катацца на веласіпедзе атрымаюць 650 гарадскіх ровараў (у 64 пунктах пракату будзе іх на 150 больш чымсьці ў мінулым годзе). Пункты пракату будуць адкрыты штодзень кругласутачна — да 30 лістапада. Веласіпеды будзе можна арандаваць таксама ў Харошчы, Юхнаўцы-Касцельным і ўлетку гэтага года ў Супраслі.

Зараз у Беластоку шмат пунктаў пракату ў зручных для веласіпедыстаў месцах. Найбольш іх у цэнтры горада. Веласіпеды гэта важны элемент публічнага транспарту. Зараз яны папулярныя ў Польшчы.

Неўзабаве на гарадскіх роварах, ды на дарожках для веласіпедыстаў кожны дзень можна будзе ўбачыць г.зв. цыклістаў у цэнтры горада і на далёкіх ад яго жылых кварталах. Зараз у Беластоку 117 кіламетраў веладарожак. Новыя веласіпедныя сцяжынкі будуюць перш-наперш на вуліцах, якія па розных прычынах перабудоўваюць.

## Захапленні жанчын

У мінулым стагоддзі жанчыны з вёскі ці горада ў вольныя хвіліны займаліся вышываннем ручнікоў, макатак, абрусоў, навалачак на падушкі і белых святочных кашуль. Вышывалі дачка і маці. Дзяўчаты выбіралі г.зв. узоры, між іншым прыгожых кветак ці звяркоў (вядома, якія ім найбольш падабаліся і якія былі на павялічаных рысунках). Узоры капіравалі адна ад другой. Вышукоўвалі іх таксама і ў часопісах. Вышывалі таксама цудоўныя падляшскія пейзажы (яны — вышываныя карціны). Куплялі ніткі махры і муліны перш-наперш, як казалі, вясёлых колераў зялёнага, чырвонага, аранжавага, галубога (блакітнага) і карычневага ды радзей чорнага колеру. Бывала, дамаўляліся на вячоркі ў доўгія асеннія і зімовыя вечары і вышывалі. Не трацілі дарма часу. Тады яшчэ не было тэлевізараў. Бо зараз глядзелі б і глядзелі б тэлесерыялы. Цяпер толькі некаторыя ўсё ж займаюцца вышыўкай.

У Нараўчанскай гміне вышывальшчыцы з замілаваннем да гэтага занятку не звяліся. Жывуць яны, між іншым, у Забрадах, Заблотчыне, Новым Ляўкове, Старым Ляўкове, Лешуках, Новым Масеве, Новай Луцэ, Плянце і Семяноўцы. Восем з іх выслае свае працы на конкурс у Гайнаўскі дом культуры. Сёлета выслалі іх да 15 сакавіка. З вёскі Плянта завезлі свае вышыванкі, між іншым, Малгажата Краўчык, Людміла Здаsucceeded. Здаоўская і Галіна Бірыцкая. Іх працы прыгожыя і ўзнагароджваюцца. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Вершы — дарога ў вялікую літаратуру

Уффф... «Роднае слова — 2019» ужо за намі. Толькі выступоўцы, настаўнікі і бацькі ведаюць, колькі рэпетыцый, падрыхтоўкі і нерваў патрабуе ўдзел у гэтым конкурсе. Аднак не можна і так гэтага параўнаць з радасцю, якая суправаджае выступоўцаў пасля добра прадэкламаванага верша. Некаторыя дэкламатары сходзілі са сцэны і хуценька беглі да бацькоў, або настаўніц з пытаннем: «Добра пайшло?». Вядома, суперзоркамі «Роднага слова» былі — вы, вучні, аднак тыя, якія памагаюць вам рыхтавацца, здаецца, што перажываюць больш за вас. У час беластоцкіх адбораў прыбягалі задыханыя бацькі, але з усмешкай на твары і радаснымі словамі на вуснах: «Уфф, я паспеў».

Конкурс «Роднае слова» таксама даказвае, што вы вельмі любіце вершы. Вядома, да вершаў не можна нікога прымусіць. Аднак на сцэне было відаць, што дзесьці ўнутры дрэмле ў вас зацікаўленасць мастацкім словам. Нават не толькі словам, але і аўтарамі вершаў. Малгажата Паплаўская — вучаніца першага класа запытала: «Ці ёсць Міра Лукша?». «Не, няма», — адказала я. «А Ларыса Геніюш?». І тут трэба было растлумачыць, што аўтарка памерла ў 1983 годзе. А не было гэта простым, бо мы ўсе ведаем, што ў час выступаў нашых сяброўі сябровак, нельга размаўляць.

На маю думку вы ўсе маеце ў сабе нешта з мастакоў. Такія конкурсы ўзбуджаюць літаратурныя зацікаўленні, фантазію і... пабачыце, можа праз нейкі час вершы некаторых з вас будуць дэкламаваць чарговыя пакаленні беларусаў. Дадаткова трэба вам ведаць, што дэкламатарскія конкурсы спрыяюць дасягаць лепшых вынікаў у навуцы.

Файна, што для некаторых прыярытэтам была добрая гульня пры дэкламаванні вясёлых вершаў, якія не толькі смяшылі дзяцей і публічнасць, але таксама вучылі некаторых паводзін.

Віншую ўсіх, якія адважыліся прыняць выклік і выступіць на сцэне са сваім вершам.

Тэкст і фота
**Уршулі Шубзды**



Дэкламатары са школы імя свсв. Кірыла і Мяфодзія.



Дэкламатары са школы № 4



Вераніка Дунай, Малгажата і Вікторыя Паплаўскія са школы ў Залуках.



На сцэне дэкламуе Клім Латышонак.



Іаанна Марко з дачушкай Веранікай.

## УВАГА КОНКУРС!

## № 13-19

**Несла гаспадыня ў кошыку 10 яек, а дно ўпала. Колькі засталося?**

(Н...)

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 14 красавіка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адаз на загадку № 9: пыласос.**

**Узнагароды, велікодныя наклейкі, выйгралі Марыюш Красько, Віялета Смалюк з Арэшкава, Наталля Петручук, Оля Кардаш з Нарвы, Аня Арлоўская, Куба Амельянюк, Оля Гурба з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Аляксандра Якімюк, Наталля Гайдук з ПШ № 1 у Гайнаўцы, Куба Васільчык з Нараўкі. Віншуем!**

# Завяршылі ў прыгожым стылі!

Завяршае працу гімназія і разам завяршаюцца адукацыйны выклікі ў навучанні беларускай мове. Мова пра прадметны конкурс, якія цягам гадоў выдатна ажыўляў працэс навучання. Бывалі гады, калі да паўсотні гімназістаў дабівалася звання лаўрэата. Гэта выдатна падымала прэстыж школы ў гарадскіх і ваяводскіх рэйтынгах, а самі лаўрэаты мелі шанс атрымаць стыпендыю войта, бургамістра ці маршалка ваяводства. Поспех у конкурсе часта натхняў да ўдзельніцтва ў міжшкольных праектах. Вось хоць бы сярод сёлетніх гімназістаў-лаўрэатаў можна прыкмеціць параможцаў беларускай дыктоўкі, удзельнікаў Сустрэч «Зоркі», конкурсу «Гавэнда», аматараў маладзёвага беларускага тэатра і мастацкіх праектаў аб'яднання АБ-БА ды іншых прадметных конкурсаў. Так было заўсёды!

Ці захаваецца такая актыўнасць у новай, васьмігадовай, сістэме навучання?

У навучальным годзе 2018/2019 у прадметным конкурсе ўдзельнічалі адно трэцякласнікі. Выклік падняло 25 гімназістаў з якіх 8 стала фіналістамі. Трэба сказаць, што завяршылі яны справу ў прыгожым стылі — усе фіналісты сталі лаўрэатамі. Вось іх прозвішчы:

**Іаанна Хомчук** — Белгімназія ў Гайнаўцы,

**Эва Іванюк** — Гімназія № 2 у Гайнаўцы,

**Вікторыя Пякарская** — Гімназія № 7 у Беластоку,

**Іаанна Нікіцюк** — Гімназія пры бельскай «тройцы»,

**Уладзіслаў Кутузаў** — Гімназія ў Нарве,

**Эмілія Скепка** - Гімназія ў Нараўцы,

**Ганна Гадзінская** — Гімназія пры бельскай «тройцы»,

**Дам'ян Бусловіч** - Гімназія пры бельскай «тройцы».

**Віншуем!**

Фота Аляксея Мароза

## Захаваць у памяці Масленку

**МАСЛЕНІЦА** — старажытнае славянскае свята, якое нагадвае карнавал. У народным календары няма канкрэтнай даты. Свята пачынаецца роўна за восем тыдняў да Вялікадня і працягваецца цэлы тыдзень.

На масленічным тыдні людзі спажывалі многа бліноў. Бліны — сімвал сонца.

У Нарве вучні V-VIII класаў і гімназісты 7 сакавіка г.г. ахвотна прынялі ўдзел у святкаваннях. У нашай школе адбыўся масленічны кірмаш. Вучні, бацькі, бабулі прыгатавалі самыя смачныя бліны і аладкі. Чаго толькі тут не было! Былі з сырам, яблыкамі, малінамі, мёдам, сочывам...

Кожны мог купіць асалоду гэтага незвычайнага дня. У нас атрымалася смачная, салодка і вясёлая Масленка. Шчыра дзякуем за цудоўнае свята, якое трэба захаваць у памяці.

**Клаўдзія Ніканчук**, VII клас ПШ у Нарве

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Курапатка і паляўнічы

Злавіў паляўнічы курапатку, схапіў яе за шыю і хацеў прыкончыць. А спалоханая насмерць птушка заплакала:

— Не душы мяне, пашкадуй, добры чалавек!

— Я паляўнічы, мая справа страляць, прыносіць дамоў яду.

— Як пусціш мяне на волю, — пачала ўмаляць курапатка, — то твая карысць узрасце ў сем-дзесяць разоў. Я прывяду табе вялікі статак курапатак, а ты страляй іх і еш на здароўе!

А паляўнічы толькі насупіў бровы і кажа:

— Я прыкончу цябе без ніякай літасці і шкадавання! Вось, прыдумала сабе збаўленне! Хочаш прадаць пад нож сваіх блізкіх і сваякоў. Дык ведай адно — няма ў мяне шкадавання для здраднікаў, якія прадаюць сваіх родных і сяброў.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Марта Драздоўская, Міхалова

## Вецярок

Вецярок моцна вее,
усё танчыць, усё плыве,
без мяне.
Чую ваду ў патоку,
галасы ў траве,
вецярок дуе, вее,
шэры луг зелянее,
усё жыве.

## Польска-беларуская крыжаванка № 13-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 9-2019**

Абы, муха, дуброва, дата, лама, хачу, фазан, гарбата, інак, памост, Ян. Ом, догма, удача, хутар, баба, біс, фант, золата, вазак, брама, Антон.

**Узнагароды, запісныя кніжкі,** выйгралі **Матэвуш Адамовіч, Мая Куптэль** з Нараўкі, **Давід Матавіцкі, Юлія Стэфановіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Клаўдзія Ніканчук, Оля Мадзалеўская** з Нарвы, **Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Павел Пахвіцэвіч, Дам'ян Дмітрук** з Орлі, **Аляксандра Іванюк** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Вікторыя Багінская, Клаўдзія Орда** з бельскай «Тройкі». Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Dzban | | | | Śniadanie / Operacja | | Wał / Wiosna | | | |
| Baran | | | | | | Jama / Rząd | | | |
| | | Osa | Brzoskwinia / Wieczór | | | | | | |
| Odwiedzenie | | | | | | | | | |
| | Środa | | | | | | | Amen / Słuch | |
| Głąb kapuściany | | | | | | | Ewa | | Lokaj |
| Kapa | | Ocalały | | | | | | | |
| Peruka | | | | | | Wy | | | |
| | | | Bas | | Zapachy | | | | |

Юрка БУЙНЮК

# Толік і Колік. З’езд самагоншчыкаў

Пад канец вясны Толік і Колік рашылі ў гарадоцкім лесе сарганізаваць з’езд самагоншчыкаў. Толік падаў у «Варшаўскую газету» аб’яву, што арганізуе Міжнародны з’езд самагоншчыкаў усяе планеты. З’езд меў адбыцца праз два месяцы. Удзельнікам з’езду трэба было абавязкова ведаць сусветны слэнг самагоншчыкаў, такое эсперанта ўсіх самагоншчыкаў свету, а таксама прывезці з сабою прыклады народнай вытворчасці, значыць, самагонку з роднага краю. Прайшлі два месяцы. З’ехалася шмат людзей з усяго свету, з усіх кантынентаў і краін. Ехалі на чым каму прыйшлося: адны запрагалі казу, другія каня, іншыя — сабак. Багацейшыя самагоншчыкі прыехалі на шыкарных аўтамашынах. Усе селі за даўжэзнымі сталамі, гасцявалі і выпівалі. Гасцей віталі Толік, Колік і Валодзік. Усе падыходзілі да іх і дарылі сваю айчынную самагонку.



Фота Адама Паўлоўскага

Прывітаў іх самагоншчык з Ізраіля:

— Яўрэй знайшоў грошы, глядзіць, а тут яму не хапае!

— П’ем за яўрэйскіх самагоншчыкаў!

— А ведаеце, у старажытнай Расіі за цара Гароха, калі людзей было троха, ні храна не было, але самагонка ўжо была! — рускі самагоншчык узяў і закусіў свойскай каўбаскай з хрэнам.

— За рускіх самагоншчыкаў!

І ўсе дружна паднялі чаркі з самагонкай. Падняўся самагоншчык з Польшчы.

— Польска для палякув, земя для буракув!

— А з буракоў сакавітая самагонка! За палякаў! — падхапіў Колік

— Не, Беларусь для беларусаў, а бульба для бульбашоў.

— І з бульбы самагонка. Смаката! — прывітаў госця Толік.

Тут устаў самагоншчык з Паўночнай Карэі і прамовіў тост:

— Самагонка з рысу, закуска з пацука.

— Фуууу! — хорам крыкнулі ўсе і запілі самагонам.

— Кітай, самагонкай працвітай, у нас самагоншчыкам рай!

— Мексіка гоніць з кактуса! — ускрыкнуў самагоншчык у вялікім самбрэра і каляровым строі.

— Скарэй гані самагонку з мышэй. Віскі ведае паўсвету! — ускрыкнуў самагоншчык з Англіі.

— Фуууу! — запіў віскі натоўп самагоншчыкаў з усяго свету.

— А я рад, што самагонку жанем з жаб, — ускрыкнуў самагоншчык з Францыі.

— Фуууу! — усе запілі самагонкай.

— Жонка мая кахана, жане самагонку з бананаў! — ускрыкнуў афрыканскі самагоншчык.

— Не з мышэй, не з рысу, лепш напіцеся кумысу! — узнёс тост татарын.

— Самагонка ад кока-колы, ад яе будзеш вясёлы! — узнёс тост самагоншчык са ЗША.

— Ракія — будзьце вясёлыя! — ускрыкнуў самагоншчык з Балканаў.

— За ўсе народы былой Югаславіі!

— Гды відзе сьлівовіцэ, то квіцэ! — ускрыкнуў польскі гураль.

— За гураляў!

— Мужык і жонка — адна самагонка! — ускрыкнуў нехта.

— За жанатых і кавалераў!

— Ад піва, самагонка як паліва! — узнёс тост нямецкі самагоншчык.

— Найбольшая грымата, калі самагонка з граната!

Усе напужаліся, што паміж самагоншчыкаў ёсць тэрарыст, але тут ішло пра самагон з пладоў граната, а гэта ж быў самагоншчык з Грузіі.

Устаў мужчына з цёмным колерам твару і доўгай сівеючай барадой і ўскрыкнуў:

— Часам ганю самагонку з ананасаў!

— А вы скуль прыехалі?

— З Індыі, пан, з Індыі.

— Кампанія рада, калі на стале самагонка з вінаграда! — узнёс тост самагоншчык з Грэцыі.

Аднак наймацнейшая самагонная дэлегацыя была з Беласточчыны. Самагоншчыкаў з-пад Гайнаўкі рэкламаваў славуты «Дух пушчы», з Бельшчыны — «Цар даліны», а з астатніх мясцовасцей самагонка з вішань, сліў, цукеркаў ды ўсяго іншага, што папала пад руку. Падвыпіўшы і паеўшы, удзельнікі з’езда сталі спрачацца з якога кутка свету самагонка найлепш смакуе. Кожны расхвальваў свой прадукт. Паміж самагоншчыкамі даходзіла нават да спрэчак наконт гісторыі. Асабліва жыхары Беларусі наракалі на польскіх паноў, а палякі паўтаралі, што з 1945 года ў Польшчы паны звяліся. Дарэчы, каб быць панам, дык трэба на пана выглядаць, а яны ж выглядаюць як звычайныя самагоншчыкі, а не шляхта.

На з’ездзе самагоншчыкаў быў абраны Цар Самагонкі. Стаў ім Толік, які прамовіў да самагоншчыкаў усяго свету:

— Людзі добрыя! Не важнае з чаго жанем, найважнейшае, што яднае нас самагонка!

— Добра кажа! — ускрыкнуў народ.

— Дарагія самагоншчыкі, — далей прамаўляў Толік, — не важнае, што наш інтарэс нелегальны, але мы нікому не шкодзім. Гэта поўнасцю экалагічная вытворчасць!

Хаця самагоншчыкі былі з усяго свету, дасканала разумелі сябе, таму што размаўлялі на самагонным слэнгу, супольным для ўсіх, нягледзячы на нацыянальнасць, колер скуры ці мову. Разумеліся без слоў, паміж сабой завязвалі сяброўствы, абменьваліся рэцэптамі на сваю самагонку, выпівалі і захвальвалі напітак сваіх сяброў.

— Ліецца песня звонка, калі на стале хлеб, сала і самагонка! — прывітаў гасцей гурт «Бяседа», які пазней выканаў песню «Чарка на пасашок». Самагоншчыкі доўга частаваліся, папіваючы чарку і закусваючы дзічынай. На паляне на грылі смажыліся каўбаскі, шашлыкі, курыныя крыльцы, а ў халадзільніках марозілася самагонка.

# Толік і Колік. Зяць камендантa

Дзесьці пепадалёк ад Гарадка б’е крыніца белага золата Падляшша — спрадвечны *power drink* нашых продкаў, які ў наш час вырабляюць Колік і Толік, карэнныя жыхары Падляшша. Праз гарадоцкі лес цягнецца знаёмы дымок, значыць, лес жыве, а нашы хлопцы вараць самагонку і то не абы-якую — найлепшую на Беласточчыне. Што там на Беласточчыне, ва ўсім свеце! У кожнай шанаванай хаце на любое свята ставяць прынамсі адну бутэльку свойскай самагонкі менавіта вытворчасці Толіка і Коліка.

— Ты мяне не вучы рабіць самагонку. Я гэта ведаю здаўна. Самагоначка глянц, ціп-топ.

А тут у іх неспадзяваныя госці. Нечакана пад’язджае да іх службовая аўтамашына з камендатуры паліцыі ў Беластоку. З машыны выкаціўся нізенькі, тоўсценькі і рухавы камендант Сцяпан Калодка. Падбег з пісталетам да Толіка і Коліка.

— Не варушыцеся ! Рукі ўверх!

— Пан камендант, пан камендант, пачакайце!

— Маеце пяць мінут, каб закрыць свой інтарэс. Я даўно ведаў, што вы тут выпраўляеце...

— Пан камендант, пагаворым як людзі. Паспрабуйце... сма-а-ката! — Толік совае бутэльку пад нос каменданту. У каменданта адразу з’явілася шчырая ўсмешка задавальнення.

— Ты мне бутэльку не давай, а вунь гэтую бочку. Дачку замуж выдаю!

— Як так, пан камендант, то калі ласка, — Толік коціць бочку самагонкі ў паліцэйскі фургон. — Толькі будзьце чалавекам, не закрывайце нам бізнес!

— А хто вам бароніць? Можаце далей гнаць!

— Дзякуем, пан камендант! — хорам кажуць Толік і Колік

— Паразмаўляў бы з вамі, але, разумееце, рыхтую вяселле, спяшаюся. Бывайце, хлопцы! — махнуў рукою камендант, моцна ірвануў паліцэйскай машынай і столькі яго бачылі.

Калі паехаў камендант, Колік пачынае:

— Ты, я чуў, што яго дачка з неграм пазнаёмілася ў Лондане.

— Хто гэта негр?

— Ну, чорны такі чалавек...

— Вочы чорны?

— Цэлае цела чорнае, разумееш, рукі, ногі чорныя, усё!

— Ну, гэта навіна на ўсё Падляшша. Я хацеў запытаць, ці той чорны любіць самагонку?

— А хто яе не любіць! Нават сам прэзідэнт п’е яе!

— Ну, што ты, то хтосьці з Варшавы той наш...

— Так, наш. Калі ты смачна спаў пад елкай, уяві сабе, пад’ехаў чорны лімузін, выйшла з яго трох мужыкоў у дарагіх чорных касцюмах, з чорнымі акулярамі і сказалі, што добра заплацяць і каб я пад спецыяльны заказ...

— Казкі пляцеш...

— Не пляту. Іх лімузін быў на варшаўскіх нумарах, а літары чырвоныя на белым фоне. Разумееш не абы-хрэн такім лімузінам ездзіць. Гэта быў той жа сам...

— А чорт з ім. Варшавякі ведаюць, што добрае. Ты, а ў каменданта то будзе вяселле...

— Афрыканскае. Сам бацюшка чытаў у нядзелю, што ён афрыканскага веравызнання.

— Ты, на вёсцы гаварылі, што тыя, разумееш, афрыканцы, то за жонку даюць табун кароў.

— Брэшаш!

— Не брашу. Што край дык звычай.

— Я хацеў бы мець такога зяця! Пачакай, а на чорт каменданту табун кароў? Што ён з імі зробіць, хто іх пасвіць у Беластоку будзе, даіць?

— Ты не бойся. Ён кароў прадасць і кватэру ў Беластоку дачцэ і зяцю купіць.

— Такая прыгожая дзяўчына за чорнага захацела. Мала то хлопцаў у Гарадку...

— Колік, любоў не выбірае. Гэтага не ведаеш, што сучасны свет ёсць *інтэрнашнл*.

— Што гэта *інтэр*...?

— Міжнародны, сусветны, усе народы, нацыі, расы, веравызнанні вымешваюцца. Колік, свет на Гарадку не канчаецца. Свет развіваецца і ідзе наперад.

— Ну добра, адкуль дачка каменданта ведае афрыканскую мову?

— Колік, у Лондане ўсе размаўляюць па-англійску. Нават увесь свет гаворыць на англійскай мове. І дачка каменданта ведае англійскую мову, і зяць таксама.

— І на Падляшшы?

— І на Падляшшы таксама ўсе маладыя вучацца ў школах англійскай мове?

— А беларускай?

— Колік, нават на Беларусі ўсе па-руску гавораць. А што там на Падляшшы!

— А мы з табой? Ну, мы таксама *інтэрнашнл*?

— Мы, усходнія беларусы — *інтэрнашнл*. Ведаем беларускую, рускую і польскую мовы. З украінцамі таксама дагаворымся.

Колік менш ведаў, чым Толік, і той *інтэрсрашл*, *інгліш*, і ўвогуле чорны зяць каменданта, усё было яму цікавае і нетутэйшае. Цікава было б паглядзець такое вяселле. Мо афрыканскай самагонкі паспрабаваў бы?

— А ты што, не напіўся б за здароўе дачкі каменданта? Ён жа ўзяў нашу самагонку на яе вяселле. Гэта ж гонар! Будзе чым пахваліцца людзям.

— Пэўна, давай! Чорны не чорны, але будзе наш. Падляшскі афраамерыканец.

І абодва зачэрпнулі па кварце самагонкі, паднялі тост за маладажонаў.

— А дзеці якія ў іх будуць?

— Такія як усе. Будуць у школу хадзіць, вучыцца, працаваць, жаніцца. Усе мы дзеці аднога Бога. А камендант будзе *інтэрнашнл-цесць*.

— Шкада, што не заплаціў.

— Хрэн там з грашыма. Найважнейшае, што інтарэс нам не закрыў. Гэта ён рашае дзе гнаць, а дзе не гнаць самагонку!

Колік і Толік доўга падымалі тосты за маладажонаў.

# Катлы на Вялікім гасцінцы

21 сакавіка ў Падляшскім музеі народнай культуры, што каля Беластока, адбылася прэзентацыя дзвюх кніжак, выдадзеных Музеем малой айчыны ў Бельску-Студзіводах: манаграфіі аўтарства Яна Мінкевіча і Уладзіміра Кірылюка „Катлы на Вялікім літоўскім гасцінцы” і зборніка паэзіі Зоі Сачко „Пока”. Мадэратарам мерапрыемства быў загадчык Музея малой айчыны Дарафей Фіёнік. Спярша было пра паэзію. На лавачку перад публікай селі сама паэтэса ў акружэнні вакальнай групы калектыву „Жэмэрва”, якая праспявала некалькі мясцовых песень, а паміж імі вакалісты прачыталі некалькі вершаў са зборніка вырaслай у падарлянскай Вульцы Зоі Сачко. Затым вядучы папрасіў і самую паэтэсу ўзяць слова. Сказала яна, між іншага:

— Вчэсьней выйшлі штыэры зборнікі поэзіі. Пэршы зборнік быў по-белорускі, бо такая была ўмова. Але ўжэ тые, которы потым выходілі, то былі ўсіе по-нашому. Пэршы зборнік то быў „Пошукі”, такі тытул міеў, после „Над днём похіляна”, „Шчэ одна вэсна”, напісаны ў остатніх лієтах. І „Поэмы”. Штыэры такіх указалося. Я дэбютовала ў „Ніві”, бо тогды як бы „Ніва” туолько друковала по-нашому. І то было, як я шчэ была ў ліцэві. А зложылосё так, што я вучылася ў „Косцюхах”, чылі то было як бы пуольськe ліцэум, але ні помішало мніе вэрнутіся до нашого корыэня і пісаті по-нашому, бо дэбютовала ўласьне ў „Ніві”, як была учэніцою друга-трэтя кляса ліцэум і ўжэ ў тому як бы осталася. То было такое одкрыцё, я так усё поўтораю, але мніе хочэцьця до сіэтого вэрнутіся, бо ў пэўнум момэнтові я якось так усьвядоміла: то ж тут усіе людэ, Вуолька була православна, і ўсіе по-нашому говорат, і ціэлэ свое жыце ў тому языкові выражают. Ну, як жэ ж нэ начаті пісаті? То хіба сіэтэ мэнэ як бы ціэлы час трымало: скоро е людэ, которы ціэлэ свое жыце ў тому языкові пэрэказуют, тым языком жывут, то значыцьце так трэба пісаті, і так осталося. Тогды можэ нэ заўшэ шчэ так было так як тэпэрка, такі як бы рэнэсанс до того языка і былі такіе як бы націскі жэ трэба пісаті ў літэрацком языкові, чы білоруском, чы украінском — ну бо то шыэршы тады круг як бы одбёрцоў. Ну, алі добрэ, жэ так осталося.

— Новы зборнік як бы з двох частёў складаецьця — патлумачыў Дарафей Фіёнік. — Пэрша як бы моя, а друга — вона як бы для молодёжы больш доступна; так мніе думаецьце.

— Значыцьце так, двіе часті в томіку „Пока”, — адказала Зоя Сачко, — і я бардзо ўдзячна, жэ тут пан Здрайкоўскі як бы ўжычыў своіх образуў, того бусла — вуон е тут такі сымболічны — тое „Пока”, пока шчэ мы е. Пэрша часть называецця „Одэ” — і то такіе ноўшы вершы, а друга часть затытулована „Позбіеранэ з прошлого”. І жэчывісьце там коротэнькі тые вершы, которы як бы нэ войшлі до попшэдніх зборнікуў, тые якіе ўчэсніей были напісаны.

— Той сымболічны образ е тому, што аўтор ёго назваў „Над скітом у Одрынках” — дадаў Дарафей Фіёнік. — Вуон быў малёваны два ліет тому назад. То сымболь. Таксамо дочка пішэ, мы выдалі коліс йіе зборнік поэзыі. А чы малая Зося пішэ?

— О, шчэ за малая.

— Але чытаецьце йой вершы?

— Чытаемо Твою кніжку „Як выскочыў вэробэй”; чытаемо сіету кніжку і співаемо.

— А екіе новы пляны на будучносьць?

— Я ціелу дорогу роспытувала Дарка, бо ўжэ ні бардзо пуомніцьце, як то з ільном было, як тое поле оралося, як тое штось називаецьця. Я крыху прыгадуваю, але Дарэк то копальня ўсёго, так жэ дужо мніе помуог. Мніе хотіелось бы штось такое напісаті, што як было б полончонэ, такі ўспулчэсны свіет, і пэрэказаті діетям штось з тойе традыцыі. Але ніц больш ні скажу, бо нэ знаю, што выйдз.



■ Зоя Сачко ў акружэнні „Жэмэрвы”



■ Уладзімір Наумчук, Уладзімір Кірылюк, Аліна і Ян Мінкевічы

— Думаю, што плён новуой твуорчосці Зойі Сачко будэ нізадоўго.

Затым на лавачку Дарафей Фіёнік запрасіў сужонства Аліну і Яна Мінкевічаў, Уладзіміра Кірылюка і Уладзіміра Наумчука. І прадставіў:

— Ян Мінкевіч, гэта аніматар культуры. Гэта вынікла і ў маі, на пралогу, і ў час жніўных спатканняў, я пабачыў, што Аліна з Янкам гэта соль нашай зямлі. Гэта тыя скарбы, тыя нераскрытыя яшчэ таленты. Я Вас адкрыў сёлета. Гэтыя супольныя дзеянні, і тое, што я памог Вам выдаць гэтую кнігу вельмі мяне радуюць. Ну і наш нестар — без пана Уладзіміра Кірылюка гэтай кніжкі таксама не было б. Бо сведка гісторыі, пан Уладзімір памятае людзей, народжаных у...

— Народжаны ў 1928 годзе, мне ўжо за дзевятоста лет — уключыўся спадар Кірылюк. — І таму мог напісаць.

— Пан Уладзімір тут піша, што памятае людзей, — прадаўжаў Дарафей Фіёнік, — народжаных у палове XIX веку, яшчэ з імі гаварыў, людзей народжаных да паншчыны, у час паншчыны. І асоба, без якой тае кнігі таксама не было б, пан Уладзімір Наумчук. Гэта тая тройка: Ян Мінкевіч, Уладзімір Кірылюк, Уладзімір Наумчук, якія звыш дзесяці гадоў прыкладвалі гэтай тэме ўласцівую дарогу, гэта дайшло да маёй сціплай асобы і год таму, дзякуючы Марце Пацэвіч з дэпартамента культуры Маршалкоўскай управы, таксама родам з Катлоў, я пазнаёміўся з Янам і пасля з чарговымі асобамі. Так ствараецца далейшая частка нашай гісторыі.

— Вайна засцігла мяне, калі мне было адзінаццаць гадоў, — патлумачыў Уладзімір Кірылюк. — І ўсё тое помню. Бо вядомы быў лозунг: „Не аддамо гузіка”. А далей было „Нікт нам не зробі ніц, бо з намі Сьміглы-Рыдз”. І захоп Шлёнска Заальзянскага не наступіў адразу, мо з паўгода рыхтаваліся да гэтага. Я абапіраюся на тое, што бачыў, што чуў і што чытаў. Бо мой бацька выпісваў „Плён”. І першая старонка заўсёды была палітычная. Было там і пра Цэнтральную прамысловую акругу, і пра Эўгеніюша Квяткоўскага. І такія былі асновы ЦПА (COP — Centralny Okręg Przemysłowy): далёка на захад, далёка на ўсход, а з поўдня — горы. І яшчэ помню час, калі быў той крызіс. Хадзілі то ў Гайнаўку, то ў Варшаву; штодзённа ў солтыса сядзела па тры-чатыры асобы. Пасля, як Польшча стала выходзіць з крызісу, сталі рэгуляваць Арлянку і частку Белай, то і беспрацоўных штораз менш хадзіла па вёсках.

Затым голас узяў спадар Уладзімір Наумчук, які займаўся тэхнічна-арганізацыйнымі пытаннямі, звязанымі з падрыхтоўкай і выданнем манаграфіі:

— Пан Кірылюк, нягледзячы на свой узрост, помніць даты, даты нараджэння амаль усіх людзей у Катлах, у якім годзе, помніць, хто дзе меў які палетак, хто з кім жаніўся. Я казаў: „Пішыце”. „Не, я не буду пісаць, я буду расказваць”. Гэта крыху доўжылася. Пасля заінспіраваўся да пісання Ян Мінкевіч. Цягам васьмі гадоў мы збіралі дакументы, фатаграфіі. Галоўная тут заслуга Яна, які ездзіў да знаёмых, у Беласток, ну і на гэтай аснове з'явілася першае выданне кніжкі пра Катлы; цяперашняе выданне — другое, дапрацаванае. Якія былі мэты? Здымкі, што былі ў людзей, у хатах, некуды прападаюць. Былі такія выпадкі, што прадавалі дом і новы ўласнік усё тое выкідае або спальвае. І многа такіх дакументаў напрасту загінула. Некаторыя дакументы знаходзілі ў сметніках. І трэба было лічыцца з тым, што за 10-20 гадоў людзі спытаюць: „А якія нашы карані?” Таму мы стараліся, каб шматлікія здымкі, якія ў гэтай кнізе, былі падпісаны, хто на іх і калі. Тут не было літаратурнай творчасці, прыгожых слоў; тут факты, мова нелітаратурная, мова гаворкавая, хіба што нейкія фразы падпраўлены стылістычна. Гэтыя здымкі паказваюць, якія людзі жылі ў вёсцы, як яны апраналіся. Трэба падкрэсліць той патрыятызм, калі людзі з бежанства, з далёкіх расійскіх рэгіёнаў, вярталіся да свайго месца, бо гэта наша, гэта нашых продкаў. У гэтай кніжцы сведчанне лакальнага патрыятызму. Бачыцца тут і салідарнасць, тую ахвоту несці дапамогу патрабуючым.

— Да 1990-х гадоў тыя лаўкі былі поўныя, — прадаўжаў Ян Мінкевіч. — Міналі чарговыя гады і тыя лаўкі пусцелі. І мы сталі збіраць тыя фатаграфіі, тых людзей, што сядзелі на лаўках. Бо чым ёсць фатаграфія? Яна з'яўляецца хвілінай, зачыненай у кадры. Затое падпісаны здымак з'яўляецца ўжо дакументам. То Уладзімір Наумчук з Уладзімірам Кірылюком сталі апрацоўваць тыя здымкі, успаміны. Я пазнаёміўся з імі ў 2012 годзе. Узяў я іх дахаты, прачытаў, і гавару: „Аліна, гэта пачатак будучай кніжкі”.

Было 12 сакавіка 2012 года. Сядзела мая мама і стала расказваць пра Мора, пра сваіх бацькоў, пра дзядоў. Я хацеў гэта спісаць. Але, як гэта на вёсцы бывае, азвалася карова, і мне кажуць: „Ідзі, пабач, што там дзеецца”. І пакінуў я, бо ж яшчэ тое ўспеецца запісаць. Успеем, маем на тое час; было гэта 18-га, а 21-га маёй мамы ўжо не было. І я не ўспеў спісаць сваіх каранёў з Мора. І гэта мяне так уразіла, што маючы ўспаміны, маючы здымкі, трэба з гэтага стварыць кнігу.

— Сёння маем сёмую гадавіну смерці ягонай мамы, — заўважыла спадарыня Аліна.

— Адыход маёй мамы ўсвядоміў мне, што гэта трэба пакінуць будучым пакаленням. Тое, што сабраў Уладзімір, я палічыў сваім абавязкам перадаць далей. Доўжылася гэта да 2016 года. У 2016 годзе мы скамплектавалі наш матэрыял у форме кнігі. Тыраж кнігі быў невялікі, некалькі асобнікаў. І я з тою апрацоўкай звярнуўся да Марты Пацэвіч з пытаннем, як гэта распаўсюдзіць у шырэйшым маштабе. А яна мне сказала, што ёсць такі Дарафей Фіёнік і трэба з ім спаткацца. Але пакуль да гэтага дайшло, то я раздумваў, як гэта ўсё зрабіць. Гартаў я асобнікі „Нівы”, „Часопіса”. І ў „Часопісе” я знайшоў напісаныя а. Рыгорам Сасною і Дарафеем Фіёнікам артыкулы пра цэрквы ў Бельску. І гэта навяло мяне на думку, што ёсць такія людзі, якія займаюцца нашай гісторыяй, класікі нашай мясцовай гісторыі. І тады я сягнуў па кнігі: пра Пасынкі і пра Шчыты. І на падставе гэтых кніжак я зразумеў, як трэба гуртаваць матэрыял у раздзелы. І як спаткаўся з Даркам, то ўжо справы пакаціліся шпарка.

У пачатку мерапрыемства Дарафей Фіёнік падкрэсліў, што гэтай манаграфіі, магчыма і не было б, калі б не Аліна Мінкевіч. І хаця яна не згадваецца ў ліку аўтараў манаграфіі, то яе роля ў гэтай справе па сутнасці вядучая. Гэта быццам ілюстрацыя пагаворкі з „ніўскага” сёлетняга календара, які ілюстраваў згаданы ўжо Міраслаў Здрайкоўскі, што за вялікім мужам стаіць вялікая жонка. Бо гэта спадарыня Аліна стварала той дамашні клімат, у якім ейны муж мог так паспяхова заняцца „вырошчваннем» кнігі, дакументаваннем мінулага сваёй вёскі; ды не толькі сваёй, але закранаюцца ў кнізе і суседнія мясцовасці. А сама спадарыня Аліна, родам з Чахоў-Забалотных, актыўная таксама і на шырокім грамадскім полі: ужо пятнаццаць гадоў спявае яна ў бельскіх „Васілёчках”...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

1 ☞ працяг

падляшска-палескай прасторы, **Ян Карчэўскі** — за адданасць у шматгадовай працы ў карысць беларускасці ў школьнай і пазашкольнай прасторы, за дваццацігадовую вытрымку ў арганізаванні і развіванні «Беларускай гавэнды», якая трывала запісалася ў культурна-асветным жыцці беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

Яраслаў Іванюк: — Я лічу, што гэта ўзнагарода ўсім тым, хто далучыўся да праекта „Наша памяць". Гэта прафесар Алег Латышонак, Юры Каліна, Валянціна Лаеўская, Эва Мароз-Кэчынска і шмат-шмат іншых. Я вельмі сардэчна дзякую за тое, што наша памяць пра трагічныя падзеі 1946 года гуртуе беларусаў Беласточчыны.

Адмысловым патрыятычным букетам быў адзначаны таксама Віктар Швед, якому 23 сакавіка споўнілася 94 гады, надалей плённы аўтар твораў, падмацоўваючых свядомасць беларусаў не толькі Беласточчыны некалькіх ужо пакаленняў.

З вялікім хваляваннем узгадалі на момант мінулагодніх святкаванні, паглядзеўшы відэаматэрыял, падрыхтаваны Лукашом Сцепанюком, а асабліва ўручэнне ўзнагарод-Пагоняў Лявону Тарасэвічу, Пятру Сэльвесюку і Юрыю Туронку, якога сёння няма ўжо з намі, а які заўсёды быў моцнай падтрымкай для духу і ведаў беларусаў розных пакаленняў.

■ Віктар Швед з сям'ёю

Святкаванні праводзіліся таксама ў беларускіх ліцэях у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім 25 сакавіка, дзе настаўнікі і вучні рыхтуюць традыцыйны Дзень волі — святочнае мерапрыемства, ахопліваючае ўсіх вучняў.

Святкаванні Дня Волі праводзіліся 24 сакавіка ў Варшаве, Кіеве, Гродне і Мінску — у Кіеўскім скверы. Прыйшлі на канцэрт тысячы людзей паслухаць выступленні палітыкаў і рок-музыкантаў з некалькіх беларускіх гуртоў, між іншым «Н.Р.М.». Сустаршыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Віталь Рымашэўскі: „Быць годнымі нашчадкамі — гэта не толькі ўшаноўваць іх памяць. Гэта таксама працягваць іх справу, бараніць Беларусь і яе незалежнасць. А незалежнасць Беларусі пачынаецца з ушанавання продкаў, нацыянальных сімвалаў і адраджэння нашай роднай беларускай мовы. Бо той, хто зганьбіць родны сцяг, тое самае, што плюне ў твар свайму бацьку. А хто адмовіцца ад роднай мовы, усё адно што забудзецца родную маці!". У час дазволенай уладамі імпрэзы міліцыя затрымала былога лідара Маладога фронту Змітра Дашкевіча пасля яго выступу на мітынгу.

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

**Віктар Швед**

## Вясна

Вясна
— сцвярджаюць усёведы,
Здзяйсненне запаветных мар.
Родзяцца сумненні ў Шведа:
Толькі яшчэ зімовых хмар.

І адыходзяць пакаленні,
Аднолькава дарога ўсім.
У глыбокай старасці асенняй
Хацелася б быць веснавым...

Беласток, 21 сакавіка 2019 г.

Radzima Photo

Photos of the Day for March 25, 2019

## http://radzimaphoto.com

Сучасная фатаграфія робіцца настолькі хутка, што цяперашнім дзецям ужо нават невядома, што калісьці, каб пабачыць свой фотаздымак, патрабавалася некалькі дзён. Яшчэ стагоддзе таму людзям была вядома толькі чорна-белая фатаграфія, пра каляровую толькі марылі. Цяпер усё вельмі проста — ужо няма ніякіх хімічных рэактываў, ліхтароў з чырвоным шклом, якія асвятлялі працу фатографа, фотапавелічальнікаў і прылад для сушкі здымкаў. Але тым не менш шарм чорна-белай фатаграфіі захаваўся, а зацікаўленне ёй настолькі моцнае, што многія прафесійныя фатографы адмыслова робяць такія здымкі, прыцягваючы тым самым зацікаўленне да сваёй працы з боку як звычайных гледачоў, так і журы разнастайных фотаконкурсаў.

Адным з такіх фатографаў з'яўляецца Джон Кунстадтэр, працы якога аб беларускіх мясцінах і людзях можна пабачыць на сайце ў інтэрнэце па адрасе **http://radzimaphoto.com.**

Калі цікаўны карыстальнік загляне на дадзены сайт, то перад яго вачыма адкрыюцца партрэтныя выявы малой дзяўчынкі, поля з людзьмі побач воза пад вялікім дрэвам, старой жанчыны. Магчыма, аўтар, робячы свой сайт, такім чынам хацеў паказаць пачатак жыцця, яго неабсяжнасць і мудрую старасць.

Ніжэй за назву сайта, якая напісана акурат на трох пералічаных здымках, ідуць фатаграфіі, зробленыя апошнімі днямі, гэта значыць у сакавіку бягучага года. Згодна з пададзенай там інфармацыяй, фатограф знаходзіўся на Міншчыне — у Маладзечанскім і Валожынскім раёнах. Дарэчы, з правага боку галоўнай старонкі сайта мы можам пабачыць архіў фотаздымкаў, які датуецца лістападам 2009 года. Гэта значыць, што цягам дзесяці гадоў віртуальная персанальная фотавыстава Джона Кунстадтэра стала абнаўлялася і дапаўнялася.

Хто ж такі гэты Джон Кунстадтэр? Адказ на гэта пытанне можна знайсці таксама з правага боку галоўнай старонкі. Там месціцца спасылка „Аб аўтары" на трох мовах — англійскай, беларускай і польскай. Праўда, калі клікнуць на дадзеную спасылку, то на польскай чамусьці ніякай інфармацыі няма. Паводле расповеду пра аўтара, у 2005 годзе Джон Кунстадтэр пайшоў у адстаўку з амерыканскай дыпламатычнай службы, і стаў увесь свой час прысвячаць фатаграфіі.

„Маё фатаграфічнае падарожжа па Беларусі няспынна натхняе мяне і вядзе па трох сцежках. Першая — стварэнне беларускага брэвіярыя. Гэта спроба адлюстраваць кола года, а таксама новае нараджэнне веры, што адбываецца пры адметным беларускім асвятленні, напаўняюцца адметным беларускім водарам глебы і адметным беларускім пачуццём повязі з радзімай. Другая сцежка — гэта спроба адлюстраваць глыбокую, нязломную і — зноў жа — адметную і неад'емную еўрапейскасць беларускай культуры, беларускай сутнасці. Незлічоную колькасць разоў я быў сведкам таго, што сэрца беларускай нацыі б'ецца ў кожным малым, нават у немаўляці, што мова нацыі спявае ў кожным жэсце і кожнай усмешцы, што беларусы сціпла і непахісна спраўджваюць словы вялікага беларускага паэта Максіма Багдановіча", — піша фатограф у рубрыцы „Пра сайт", адзначаючы, што трэцяя сцежка вядзе яго да разумення повязі лёсаў яго нацыі і нацыі беларускай. „Мы не былі б амерыканцамі, калі б не лёсавызначальная дапамога пры Саратозе — і не толькі — Тадэвуша Касцюшкі. Мы заўсёды ўшаноўвалі Касцюшку як паляка. Але ён ёсць сынам і беларускай глебы", — разважае Кунстадтэр.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара

## 110 гадоў з дня нараджэння

# Валерыя Маракова

Беларускі паэт Валерый Маракоў нарадзіўся 27 сакавіка 1909 г. у мясцовасці Козырава пад Мінскам (цяпер ужо ў межах сталіцы). Паходзіў з сям'і Дзмітрыя Маракова, меў двух малодшых братоў — Леаніда і Уладзіміра. Сваякі славіліся тым, што мелі рэпутацыю добрых печнікоў. Валодаў гэтым майстэрствам і Валерый Маракоў, пра што пазней згадваў на ўспамінах іншы паэт — Станіслаў Шушкевіч.

У час Першай сусветнай вайны сям'я Мараковых была ў бежанстве — у Мцэнску (Расія) і Ромнах (Украіна). У 1924 г. Маракоў скончыў 4-ю Мінскую сямігодку і да канца 1925 г. працаваў мулярам разам з бацькам. У снежні 1925 г. па пастанове Цэнтральнага бюро юных піянераў і пры спрыянні Алеся Якімовіча Валерыя прызначылі сакратаром рэдакцыі часопіса „Піянер Беларусі".

Валерый Маракоў належаў да „другога прызыву" (1926 года) маладнякоўцаў, да якіх яго прывёў І. Барашка. У канцы 1926 г. пэўны час па запрашэнні Алеся Звонака жыў у Полацку, друкаваўся ў газеце „Чырвоная Полаччына". У 1927 г. паступіў у Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум, але пасля двух курсаў адкліканы з вучобы і прызначаны загадчыкам літаратурнага аддзела газеты „Савецкая Беларусь", дзе працаваў з перапынкам да канца 1930 г. У 1931 г. паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне МВПІ (скончыў у 1934 г.). Адначасна працаваў у часопісе „Чырвоная Беларусь".

Як літаратар Валерый Маракоў дэбютаваў вершамі ў чэрвені 1925 г. (газеты „Чырвоная змена", „Маладыя араты"). Першы зборнік паэзіі „Пялёсткі" выйшаў у 1926 г. Сучаснікі характарызавалі зборнік як моцна дэкадэнцкі, Антон Адамовіч нават пісаў, што Маракову застаецца толькі самагубства. Пазней выйшлі зборнікі „На залатым пакосе" (1927), „Вяршыні жаданняў" (1930), „Права на зброю" (1933), „Лірыка" (1959), „Вяршыні жаданняў" (вершы і паэмы, 1989). Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. Галоднага, А. Новікава-Прыбоя, П. Тычыны. У 1930-ыя гг. Максім Гарэцкі так характарызаваў паэта: „Маракоў вызначаецца лірычнасцю, эмацыйнай напружанасцю, гучальнасцю сваіх вершаў. У яго шмат пачуцця, ён любіць яскравыя фарбы і гучанне". У айчыннай паэзіі яго называюць інтымным лірыкам, Валерыя Маракова вельмі кахалі розныя дзяўчаты, вылучаючы яго з ліку іншых паэтаў і завальваючы кветкамі на літаратурных вечарынах пасля выступаў.

Валерый Маракоў вядомы ў нашай гісторыі і грамадзянскімі ўчынкамі. Калі іншы маладнякоўскі паэт, Алесь Дудар, быў у ссылцы, Маракоў не спалохаўся яго наведаць, прыехаўшы ў ліпені 1929 года. Таксама вядомы выпадак, калі ён заступіўся за студэнта-аднагрупніка, якога дэкан хацеў выгнаць з установы за чытанне і захоўванне вершаў Сяргея Ясеніна.

З 1934 г. Маракоў быў сябрам Саюза пісьменнікаў БССР. У пачатку 1935 г., прабуючы пазбегнуць арышту, паехаў у мястэчка Чэрнеўка Барысаўскага раёна. 1 сакавіка вярнуўся дадому. Праз тры тыдні арыштаваны. Пасля трох месяцаў знаходжання ва ўнутранай турме НКВД вызвалены. Паўторна арыштаваны на чыгуначным вакзале 6 лістапада 1936 г. Вядома, што меў і хаваў наган для абароны ад энкавэдэшнікаў, але скарыстаца ім не ўдалося. Засуджаны пазасудовым органам НКВД 28 кастрычніка 1937 г. як „член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі" да расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны 29 кастрычніка 1937 г. разам з 22 іншымі беларускімі літаратарамі. Рэабілітаваны ваенной калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23 красавіка 1957 г.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Не дазваляйма звесціся

Сёлета ў траўні будзем выбіраць дэпутатаў у Еўрасаюзны парламент. Упраўляючая Права і справядлівасць усялякім спосабам намагаецца стаць пераможнай групоўкай на гэтых выбарах, бо, як прадбачваюць палітыкі, хто зараз пераможа, дык лягчэй будзе восенню адолець выбары ў айчынны парламент. Таму прыкладам апошніх выбараў 2014 года «пасыпаліся» чарговыя абяцанні сацыяльнай дапамогі «найбольш патрабуючым». Не стану пераказваць усяго, аб чым аж бурліць у СМІ. Спынюся над адной хвалюючай справай, якая тычыцца «трынаццатай палучкі» пенсіянерам ды інвалідам. ПіС бубніць у барабан усім і паўсюду, што гэта асабісты падарунак ад прэзаса Яраслава Качынскага. Еўрапейская кааліцыя з насмешкай кідае ў бок пісаўскіх аратараў пытанне, калі гэта мае быць аднаразовы падарунак ад прэзаса, дык чаму не абвясціў гэтага ў студзені, адно ў траўні, некалькі тыдняў перад парламенцкімі выбарамі ў Еўрапарламент? Ды і я так кажу. Калі ў мінулым годзе ў парламенце пратэставалі апекуны дзетак з абмежаваннямі, дык не хапіла для жменькі пакрыўджаных доляй дзетак 520 злотых на рэабілітацыю. А зараз адкуль такая дабрадзейнасць? Вядома, гэта выбарчая каўбаса. Прэзас Качынскі ахвяруе нам 1100 зл. брута (880 зл. наяўнымі), а вы прагаласуйце за тое, каб ПіС утрымаўся пры карыце. Ці гэта не насмешка? Ды не адзіная. ПіС у снежні мінулага году абвяшчаў разам з прэзасам Яраславам Качынскім, што не будзе прыбаўкі на электраэнергію. А што маем? Цэны на ўсё растуць, быццам агульнавядомыя грыбы пасля дажджу: прамтавары, прадукты, паслугі, лякарствы і г.д. Прыклад першы з боку. За «акард» — лякарства ад сэрца я плаціў у Чаромсе ў адной аптэцы 6 зл. за ўпакоўку 60 таблетак, у іншай — 9 зл. Зараз мне прыходзіцца стапрацэнтна плаціць 9 і 12 зл., бо прэпарат не рэфундуюць. Аб іншых не гавару. У час сакавіцкай пераацэнкі кідаюць пенсіянеру (з найменшай платай) 70 зл. прыбаўкі. І хваліцца, што гэта найбольшая прыбаўка за апошнія гады. А чаму ніхто не задумаецца, чаму пенсіянер адракаецца ад рэалізацыі рэцэпта прыпісанага спецыялістам дарагога лякарства адно просіць заменнік? Бо таннейшы. У кашальку не хапае грошай на дарагое. Такая, даражэнькія, праўда. Не дазваляйма затым звесціся на зманлівую ПіСаўскую выбарчую каўбаску. Бедны заўжды застанецца бедным, Пра яго ніхто не клапоціцца, нікому ён непатрэбны. Упраўляючыя прыпамінаюць аб такіх тады, калі ў час выбараў патрабуюць, каб на выбарчым білетэні паставілі «крыжык» пры іх прозвішчы.

**Уладзімір СІДАРУК**




## Дэмаграфія Беластока

Зараз Беласток налічвае каля 297 тысяч жыхароў. Шэсць гадоў таму было іх 284 тысячы. Лік народзін ёсць больш чымсьці паховін. Горад на дэмаграфічным плюсе. Далейшыя прагнозы менш аптымістычныя — пасля 2022 года лік беластачан будзе змяншацца. Ужо многа старэйшых людзей. Напрыканцы лютага гэтага года 71 пара святкавала 50 гадоў супольнага шлюбнага жыцця. Раней горад быў маладшы. Было многа маладых жанчын і мужчын, якім лёгка было знайсці працу. Нараджалася больш дзяцей. Цяпер маладыя і адукаваныя жыхары Беластока выязджаюць у іншыя гарады, шмат у Варшаву або на Захад.

Жыхары вёсак — як прагназуюць — ужо не будуць так масава як дагэтуль перасяляцца ў горад. Зараз заўважаецца адваротная тэндэнцыя.

Некаторыя жыхары ваяводскай метраполіі пасяляюцца ў падбеластоцкіх гмінах Васількаў, Міхалова, Супрасль, Харошча і Заблудаў. Старэйшыя людзі, перш-наперш пенсіянеры, вяртаюцца на вёску. Некаторыя ў хаты сваіх бацькоў або купляюць пустуючыя дамы і іх рамантуюць. Хочуць мець свой прыдамашні агародчык са свежай агароднінай і кветкамі, свой панадворак. Тут ім будзе спакайней жыць. **(яц)**

## Сярод невідучых

Актыўна працуе Павятовы гурток Польскага саюза невідучых у Гайнаўцы. Узначальвае яго Аліцыя Пліс. Дзейсна дапамагаюць старшыні і яе намеснік Януш Пух і член праўлення Мікалай Янкоўскі. Яны жывуць у Гайнаўцы. У гуртку ёсць члены ПСН з Гайнаўкі (тут іх найбольш), Белавежы, Дабрывады, Кляшчэль, Лешукоў, Нараўкі, Нарвы, Новага Ляўкова. Усіх 48 асоб.

Невідучыя і слабавідучыя ладзяць сустрэчы з розных нагод, адзначаюць Дзень белай палачкі, арганізуюць краязнаўчыя экскурсіі ў цікавыя мясціны нашай краіны (сёлета паедуць у горы), паездкі ў кіно і тэатр у Беластоку. Усёй грамадой ходзяць на аўтарскія сустрэчы ў гарадскую бібліятэку. Збіраюцца на спяванне калядак перад Раждаством Хрыстовым. Сёлета будзе перадвелікоднае маляванне яек. Зараз члены гуртка ПСН рыхтуюцца да перавыбараў. Мінулі чатыры гады ад папярэдніх. За гэты час іх гурток пад кіраўніцтвам спадарыні Пліс (раней Леанюк) працаваў актыўна.

19 сакавіка гэтага года запрасілі Анну Кучкін з Беластока, якая расказала пра дыетычнае харчаванне і ўсе пад яе кірункам падрыхтавалі смачныя вінегрэты. На супольным стале былі яшчэ салодкія хлебабулачныя вырабы ды кава і гарбата. На кулінарныя курсы прыехалі зацікаўленыя слабавідучыя асобы з Нараўчанскай гміны ды прыйшлі з Гайнаўкі. Мерапрыемства было ўдалае. **(яц)**

## ПЛЕБІСЦЫТ «ВІРТУАЛЬНЫЯ ГУСЛІ»

Рушыла XVI выданне інтэрнэт-плебісцыту «Віртуальныя гуслі». Галасаванне пачалося 18 сакавіка і прадоўжыцца па 30 красавіка. Гэтым разам інтэрнаўты са 104 альбомаў змогуць выбраць самую лепшую кружэлку 2018 года з шырока разуметай фолькавай, традыцыйнай, этнічнай музыкай. Асаблівасцю фольк-музыкі з'яўляецца шматлікая разнавіднасць, багацце інспірацыі заадно стылістычных, як і геаграфічных. Ад традыцый і крыніц вясковых музыкантаў па сучасную рок-музыку, фольк-джаз і фольк-метал. Ад традыцыйнай польскай сучаснай музыкі (вясковай і гарадской) па інспірацыі блізкімі і далёкімі культурамі ўсяго свету. Сярод кампакт-дыскаў «Віртуальных гусляў» знойдзем усю разнавіднасць і багацце музычных думак. Першым лаўрэатам «Віртуальных гусляў» 2003 года быў гурт «Чарамшына» з Чаромхі, які перамог пласцінкай «Гуляй, пакуль час». У 2017 годзе першае месца заваявала капэла з Малішова за кампакт-дыск «Вясковы джаз».

Галасаваць можна на інтэрнэт-старонцы http://www.gesle.folk.pl. У плебісцыце ўдзельнічаюць кампакт-дыскі з фолькавай, этнічнай і традыцыйнай музыкай, якія выдаваліся ў Польшчы ў мінулым годзе, а таксама пласцінкі айчынных выканаўцаў, выдадзеныя за мяжою. **(ус)**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. мастацкая іншасказальнасць, у якой... Алег = 17 _ 12 _ 9 _ 18 _ 19 _ 20 _ 21 _ 16 _;
2. нагляд за недзеяздольнымі асобамі = 25 _ 24 _ 26 _ 22 _ 23 _;
3. брат Авеля = 14 _ 15 _ 13 _ 8 _;
4. партнёр кумы = 6 _ 2 _ 1 _;
5. частка прасторы абмежаваная сферай = 5 _ 4 _ 3 _;
6. не сон і не мара, рэальнасць = 11 _ 10 _ 7 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 9 нумара**

Ас, аят, ода, тупік, хакеіст.

Рашэнне: **Які пастух такое і стада**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 31.03 — 06.04

**(22.03. — 20.04.)** Шчасце ўсміхнецца да цябе шырока, а неба паможа ў рэалізацыі здаўна гатовых планаў. 1-4. 04. праблемы з разгулянымі дзецьмі ці ўнукамі; мусіш быць паслядоўным. 4-6.04. глянеш на свет з большым аптымізмам. Да чаго дакранешся, заменіцца ў золата. Больш руху і вітаміну С.

**(21.04. — 21.05.)** Будуць праблемы, але не такія, каб з імі не справіцца. Зоркі заахвочваюць да змен, але пакуль не праводзь ніякіх пераваротаў. Не дамаўляйся з былым! Месяц прывітаеш з мноствам незаконченых спраў, але падкінуць табе іх яшчэ больш. Аж да 20.04. не рабі ніякіх прафесійных рэвалюцый. Задбай аб адпачынак, папраў сваю форму.

**(22.05. — 22.06.)** Трэба будзе мацней стаць на зямлі і задбаць аб працу і здароўе. Адмаўляйся ад стрэсаў і перабольшвання. 1-4.04. не дай сябе намовіць на рызыкоўныя ці падазроныя інтарэсы. Будзеш мець энергію патрэбную для таго, каб пабаркуецца з рачаіснасцю, якая можа паставіцца акунём. Самотныя Блізняты прасяць першую палову красавіка ў плане амураў. Будзеш цяпер больш рабіць, чым гаварыць. Больш нерваў, але старайся пашпацыраваць, пабегаць. Ну і кінь курыць, спрабаваўшы нават гіпнозу (удала асабліва ў Блізнят з ІІ дэкады).

**(23.06. — 23.07.)** Перад табой шмат працы, але не засяроджвайся толькі на абавязках, бо праваронiш шанцы на каханне. Новыя выклікі, але будзеш хуткі, крэатыўны і кемлівы. Магчымасці развою. 1-3.04. маеш шанцы спаткаць сімпатычную асобу. Дапамагай дыскрэтна. На працы мноства работы, разлічвай на калег. Веснавая стома, болі ў пазваночніку, суставах; не бярыся адзін за парадкі.

**(24.07. — 23.08.)** Не трымайся нічога сілай. Лёс мае для цябе многа мілых сюрпрызаў, дай яму шанцы. 4-6.04. маеш шанцы здабыць тое, на чым табе залежыць. У пары будзеш весці рэй. Энергія і запал. Пастарайся больш варушыцца, пі больш вады — скінеш фалдачкі.

**(24.08. — 23.09.)** Дасі рады кожнай справе. Работа будзе гарэць у тваіх руках. А сям'я затанцуе так, як ты ёй зайграеш. Свет убачыш у вясялейшых колерах. Першая палова красавіка — ідэальны час на каханне. Не пагражае табе любоў без узаемнасці або кепска змешчанае пачуццё. Час вырушыць з хаты. На працы цяпер не пытайся аб павышэнне. Асцярожна з алкаголем.

**(24.09. — 23.10.)** Зрэалізуеш свае задумы дзякуючы дапамозе сяброў. Прыдадуцца табе твае дыпламатычныя таленты. 4-6.04. супернагода сама трапіць у твае рукі! Ажыве тваё кампанейскае жыццё. У пачуццях ідуць змены да лепшага. Твой поспех залежыць цяпер ад думак на тваю тэму. Добры настрой. Трымайся лягчэйшай дыеты, не еж гатовых купных страў.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш схільны да неабдуманых рашэнняў, таму захавай развагу і не рабі нервовых рухаў. Можаш апынуцца ў няяснай сітуацыі. У першай палове красавіка самотныя Скарпіёны будуць карыстацца вялікімі поспехамі ў любоўным плане. Карыстайся жыццём, цешся імпрэзамі і сустрэчамі. Не турбуйся на запас, не спадзявайся прыкрых сюрпрызаў. Добры час на рамонт. У красавіку маеш шчасце да грошай, будзеш мець пастаянную крыніцу ўтрымання. 1-10.04. убачыш сапраўдны твар аднаго з тваіх блізкіх.

**(23.11. — 22.12.)** Ніхто не пераможа цябе ў гонках да павышэння і поспехаў. Не змарнуеш ані аднай нагоды, каб дасягнуць сваёй мэты. Толькі ўсё рабі легальна і прыстойна. 4-6.04. знойдзеш у сабе нявыкарыстаныя залежы энергіі. Марс змабілізуе цябе да працы і веснавых парадкаў, таксама ў пачуццях. У хаце трымай стырно ў сваіх руках. Дбай аб сваю лінію.

**(23.12. — 20.01.)** Развяжаш нялёгкія справы. Задумаеш, як паправіць свае фінансы. Будзеш адважны і з моцным характарам. Але ў пачуццях не будзь наіўным. Дома ідылічна, здарыцца штосьці добрае. На працы настаўся на высілак і абавязкі, кіраўніцтва будзе асабліва крытыканскае. Народжаныя ў ІІ дэкадзе чакаюць сустрэчы з уплывовымі асобамі. Гайданка настрояў. Больш задбай аб сваё здароўе, асабліва аб пазваночнік.

**(21.01. — 19.02.)** Высветліш сямейныя непаразуменні. Настрой палепшыцца. Людзі памогуць табе аформіць розныя справы. 1-4.04. не забывайся ў тупіку. Сонца спрыяе адважным задумам, хопіць энергіі для іх рэалізацыі. Усцікі свякоў. Настрой неблагі, але дбай аб рух, прызнайся да сваіх харчовых памылак. Еж больш свежай гародніны.

**(20.02. — 21.03.)** Выкарыстай свой дар пераконвання. Будзеш мець харызму і аптымізм. Твае рашэнні разумныя. Не рабі абяцанняў, якіх не выканаеш. У пачуццях ініцыятыва належыць табе. На працы шмат сустрэч на розных узроўнях. Мноства тваіх прапаноў, але некаторыя канчацца пустымі дэкларацыямі 1-4.04. не дай сябе падвесці мілымі слоўцамі. Можа пабольваць табе пазваночнік. Запішыся на танцы. Калорыі спальвай у спальні.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Арліцы з Навіцкавіч

— О-го! Цябе ўсюды так сустракаюць? — кажу з нехаванай зайздрасцю Дарку Фіёніку.

— А гэта, тое... — усміхаецца ён у адказ, сам заваражаны карцінкай. І з любасцю ўзіраецца на спадарынь, што як вавёркі ўвіхаюцца ля стала.

На добрую справу ўсё тут па старой звычцы. Пушчанскія людзі заўсёды сустракаюць гасцей ядой, асабліва тых з далёкай дарогі, тых дарагіх і чаканых.

Праўда, Навіцкавічы не за гарамі і пры польскай мяжы. Мясціна распалажана на рацэ Правая Лясная, сем кіламетраў ад Камянца. А мы завіталі ў Дом культуры, што красуецца на сярэдзіне вялізнай вёскі, цэнтра сельсавета. Да пявунь з народнага калектыву *Орліца*. Яны партнёры і сябры Музея ў Студзіводах.

— А вы кофе ці чай будзеце піць? — пытаюць нас.

— Каву, калі можна.

— Можна, вядома можна. Да кавы шчэ і чарачку трэба...

— А я то гляджу і думаю, адкуль вы гэта ўсё даносіце? — перакідаецца слоўцам сябра.

Усё адбываецца вокамгненна. Цягам некалькіх хвілін ужо ўгінаецца стол. На ім талеркі з мясам, з хатнім паштэтам, з гурбай бутэрбродаў ды кісла-салодкія агурочкі са слоіка. Аднак спадарыні запрашаюць за стол з пэўным хваляваннем:

— Каб ведалі раней, што прыедзеце, — кажуць быццам у апраўданне, — то лепш бы падрыхтаваліся. А так, не было калі, усё бягом, усё на ляту! Выбачайце, калі што не так...

— Усё ёсць, усё як трэба, — кажам.

Ну, чыстая селебрацыя народнай гасціннасці!

Дарафей як ніхто разумее мову народных звычак і абрадаў і да таго, калі сядзем за стол, выме прывезеныя з дарогі падарункі і абдарue гаспадынь.

— Не трэба, не трэба! — адкажуць, прымаючы салодкія падарункі.

Я таксама думаю, што лепш не трэба! Вось на ляту і мяне абдаравалі даверам.

* * *

Справа ў тым, што калі зблізку зірнеш на праблемы працаўнікоў вясковых дамоў культуры ў Беларусі, дыбам падымаюцца валасы. Сядзіш і доўга думаеш... як гэта ўсё яшчэ круціцца. На самой справе не павінна ўжо існаваць ні народных калектываў, ні народных абрадаў, ні майстр-класаў па рукадзеллі. Нічога не павінна існаваць!

— Нам сказалі прыдумаць такія формы дзеяння, за якія будуць грошы, — пачынаюць субяседніцы, дырэктар Вольга Уладзіміраўна Шэўчук і мастацкі кіраўнік Галіна Канстанцінаўна Пяркоўская. — Бачыце, нам нельга нідзе выступаць дарма. Усюды трэба зарабляць грошы. А ў вёсцы сярод сваіх людзей не прынята, каб выступаць і хадзіць з шапкай. Гэта надта сорамна. І не па-нашаму.

У Навіцкавічах якраз завяршыўся гарачы час карнавалу. І мова тут не пра гульбішчы і ўцехі, а пра працавіты час, калі ёсць магчымасць падзарабіць на даніну, якую цягам года трэба заплаціць установе для дзяржавы. У Навіцкавічах гэта звыш тысяча долараў.

— Сума залежыць ад колькасці насельніцтва, — паясняюць нам. — А ўжо ў Камянцы, прыкладна, трэба зарабіць больш за чатыры тысячы долараў. Не справішся, закрыюць установу. Таму дзень і ноч прыходзіцца думаць: дзе б яшчэ падзарабіць які грош. Ды замест займацца фальклорам, чалавек думае пра чорт ведае што. Вось, клічуць забаўляць турыстаў на аграсядзібе! Дык няма выхаду. Сядаем на сваю машыну і едзем, дзе клічуць — ці гэта будзень, ці свята.

Усё праз тую праклятую даніну!

— Каб нам дзяржава дазволіла займацца сваім *дзелам*, — абураецца спадарыня Галя, — дык мы б столькі зрабілі для беларускага фальклору! А так прыходзіцца скакаць на аграсядзібах...

У Навіцкавічах разумеюць цану сапраўднаму фальклору і народным традыцыям. Хопіць паслухаць песень *Орліцы*, у якіх адлюстраваны дух старажытнага насельніцтва ад Белавежскай пушчы. Яму няма межаў і ідэалогій. Наадварот, у моцных, акрашаных задуменнай меланхоліяй напевах чуваць галасы рэгіёна, у тым ліку нашых пявунь з Арэшкава. Сэнс параўнання ў тым, што гэтыя пушчанскія мясціны спалучаны ракой Ляснойу, якія выцякае з наваколля Гайнаўкі.

* * *

Так як і на Падляшшы, апошні дзень старога года ў Навіцкавічах называюць *Гагатухай*.

Гэта надта працавіты дзень для працаўнікоў вясковага Дома культуры. Тады калектыў *Орліца* ідзе ў народ, сыграць «Шчадруху», спектакль на аснове мясцовых абрадаў са спевамі, з казой і навагоднімі пажаданнямі.

— Нам то кажуць скакаць з 31 снежня на 1 студзень, — прызнаюцца спадарыні, — і гэта не тое, бо яшчэ пост. А ўжо калі ідзем другі раз, з 13 на 14 снежня, настрой як трэба, баявіты, святочны. Людзі іх выглядаюць, угашчаюць, плацяць грошы. Спадарыня Галіна ўспамінае як сама пераапранулася за цыганку. А ў іх раёне многа цыганоў пасялілася.

— Цыганы ў мяне малайцы! — адзначае. — Яны сустракаюць Новы год адзін раз, па-старому, з 13 на 14 снежня. Ну, і папалі мы ў такую хату да цыганоў. А там можа чалавек якіх 50 гасцюе, ды ўсё жарыцца, шкварыцца, парыцца. А ў мяне дзіцятка на руках. Я зайшла і кажу гаспадару:

— *Здоров Вася! Робы хрыстыны, бо ў мэнэ на руках твоя дытына!*

А ён крычыць: — *Я з тобою нэ спав!*

— *А ў мэнэ свідетелі е*, — я на гэта. Усе глядзяць і чакаюць, што будзе. Тады заходзяць у хату пяць чалавек, з казою і давай скакаць. То яны былі ўжо такія рады, што не расказаць. Бо мы прыйшлі іх цыганскую сям'ю прывітаць. Ой, так ужо яны нас *благодарылі*, грошы далі і цукеркі, і віно.

— Для іх гэта была гордасць, — падтаквае спадарыня Вольга. — Яны ведаюць, як мы тут працуем, якія ў нас дасягненні. Пасля гэтага здарэння сталі прыходзіць іх дзеці ў дом культуры на рэпетыцыі спеваў. А галасы ў іх о-го-го! Ад прыроды. Ды ведаеце, мы нешта перамянялі ў лепшы бок, такога не было раней...

— А яны праваслаўныя!

— Праваслаўныя, праваслаўныя, — чуем у адказ. — І зусім па-руску не размаўляюць, толькі па-цыганску і па-нашаму.

— А вы тыя грошы, што закалядавалі на *Гагатуху*, таксама аддалі для дзяржавы? — вяртаюся да размовы пра выжыванне вясковай культуры.

— А як жа! Мусова было аддаць. На другі дзень раніцай нам ужо пазванілі і спыталі пра заробак. Адразу трэба было ўсё занесці і заплаціць у касу. От, то такія *дзела*...

— Такога то я яшчэ не бачыў, — здзіўляецца Дарафей, — каб ад калядніка ў забіралі грошы...

(працяг будзе)

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**



Вольга Уладзіміраўна Шэўчук (злева), Галіна Канстанцінаўна Пяркоўская, Дарафей Фіёнік

ISSN 0546-1960